«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 5 (201), травень 2023 года

# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 5 (201) (травень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

kamunikat.org/litaraturnaja_bielarus
facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus



Змест



# Перамога. Яны наперадзе ідуць



Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

9 Мая я звычайна віншаваў бацьку і ягоных франтавых сяброў. Яны збіраліся пасля ўрачыстага афіцыёзу дзе-небудзь на беразе рэчкі ці ў ляску, выпівалі па сто франтавых за тых, хто да гэтага дня не дажыў, курылі і маўчалі. А калі ўспаміналі пра вайну, дык іх успаміны мала нагадвалі тыя карціны пераможных баталій і пампезнага геразіму, якія маляваліся савецкай прапагандай. Можна сказаць, ніяк не нагадвалі...

Мой бацька, які прайшоў вайну ад пачатку да канца, распавёў аднойчы, як патрапіў у штрафную роту. Паслалі яго ў тыл па снарады. Пагрузілі яны з сябруком тыя снарады ў палутарку, а сябрук кажа: «Я ведаю, дзе тут піва можна папіць. Заўтра наступленне, давай вып'ем перад смерцю».

На перадавой — смерць, а ў тыле, хоць і вайна, — жыццё. Пры штабе — піўная. Зайшлі яны, а ў піўной налівае піва бацькаў зямляк. Бацька кажа: «Каму немцаў забіваць — каму піва наліваць».

Зямляк у адказ: «А вы, хлопцы, прывядзіце мне сюды пару немцаў, я іх тут заб'ю».

Бацька яму ў лоб куфлем, піва не дапіўшы, і сябрук бацькаў таксама не стрываў...

З тым паехалі. Назаўтра бой, сябрук бацькаў загінуў. А бацьку асабіст паклікаў. Буфетчык нажаліўся, а буфетчык — фігура. Асабліва для асабістаў, якія разам са штабнымі на вайне піва й пілі.

Асабіст кажа: «Я пакуль да цябе па-свойску. Твой зямляк умову паставіў: ты перад ім за сябе і за сябрука свайго прабачаешся — і ён не піша рапарт. Калі не прабачаешся, дык штрафрота. Ты ў лоб даў старэйшаму па званні».

Бацька адказаў, што не ведае, ці згадзіўся б прасіць прабачэння ягоны загінулы сябрук. І пайшоў у штрафроту, дзе прабыў усяго тры дні: на чацвёрты яго паранілі.

Хтосьці сказаў бацьку, што закон: «У штрафроце (як і ў штрафбаце) не да смерці (як у немцаў), а да першай крыві ці ўзнагароды» — адстаяў перад генералісімусам Сталіным маршал Жукаў. І маршал стаў для бацькі кумірам. Мемуары Жукава ў апошнія гады жыцця былі настольнай бацькавай кнігай. Бацька не ведаў, што ягоны брат загінуў пад Берлінам 16 красавіка 1945 года толькі таму, што Жукаў, атрымаўшы на гэта згоду Сталіна, аддаў загад штурмаваць Зеелаўскія вышыні. Штурмаваць без ваеннай патрэбы: і лёс Берліна, і вынік вайны былі ўжо вырашаныя. Штурмаваць аднай пяхотай — без танкаў і самалётаў. І за два дні штурму паклалася на тых вышынях столькі салдат...

Пра гэта не сказана ў мемуарах Жукава, якія канчаюцца якраз успамінамі пра штурм Берліна. Няма ў іх нічога і пра тое, як пасля вайны генералісімус з маршалам дзялілі салдацкую перамогу.

22 сакавіка 1946 года Жукаў быў прызначаны намеснікам міністра абароны, а ўжо 1 чэрвеня таго ж года з гэтай пасады звольнены. У загадзе аб звальненні міністр абароны Сталін напісаў: «Маршал Жуков, утеряв всякую скромность и будучи увлечен чувством личной амбиции, считал, что его заслуги недостаточно оценены, приписывая при этом себе, в разговорах с подчиненными, разработку и проведение всех основных операций Великой Отечественной войны, включая и те операции, к которым он не имел никакого отношения».

21 лютага 1947 года Жукаў быў выведзены са складу ЦК. 27 лютага ён напісаў ліст Сталіну:

«Товарищ Сталин, я еще раз со всей чистосердечностью докладываю Вам о своих ошибках.

1. Во-первых, моя вина прежде всего заключается в том, что я во время войны переоценивал свою роль в операциях и потерял чувство большевистской скромности.

Во-вторых, моя вина заключается в том, что при докладах Вам и Ставке Верховного Главнокомандования своих соображений, я иногда проявлял нетактичность и в грубой форме отстаивал своё мнение.

В-третьих, я виноват в том, что в разговорах с Василевским, Новиковым и Вороновым делился с ними о том, какие мне делались замечания Вами по моим докладам. Все эти разговоры никогда не носили характера обид,



Фота pibig.info

точно так же, как я, высказывались Василевский, Новиков и Воронов. Я сейчас со всей ответственностью понял, что такая обывательская болтовня безусловно является грубой ошибкой и ее я больше не допущу.

В-четвертых, я виноват в том, что проявлял мягкотелость и докладывал Вам просьбы о командирах, которые несли заслуженное наказание. Я ошибочно считал, что во время войны для пользы дела лучше их быстрее простить и восстановить в прежних правах. Я сейчас осознал, что моё мнение было ошибочным.

2. Одновременно, товарищ Сталин, я чистосердечно заверяю Вас в том, что заявление Новикова о моем враждебном настроении к правительству является клеветой. Вы, товарищ Сталин, знаете, что я, не щадя своей жизни, без колебаний лез в самую опасную обстановку и всегда старался как можно лучше выполнить Ваше указание.

3. Все допущенные ошибки я глубоко осознал, товарищ Сталин, и даю Вам твердое слово большевика, что ошибки у меня больше не повторятся. На заседании Высшего военного совета я дал Вам слово в кратчайший срок устранить допущенные мною ошибки, и я своё слово выполняю. Работаю в округе много и с большим желанием. Прошу Вас, товарищ Сталин, оказать мне полное доверие, я Ваше доверие оправдаю. Г. ЖУКОВ».

Добра, што ў кнізе мемуараў Жукава пра дзяльбу салдацкай перамогі ні слова, і яфрэйтар Пракоп Някляеў, які паміж прыніжэннем і штрафротай выбраў штрафроту, гэты ліст любімага маршала не прачытаў. Як не прачыталі яго і бацькавы сябры, якія паміж сабой нічога не дзялілі, апроч франтавых ста грамаў ды пачака махоркі.

Вось яны сядзяць на пагорку, выпіваюць, дымяць, і з кожным днём Перамогі іх усё меней, меней, меней, галасы іх цішэй, цішэй, цішэй — вось ужо амаль і спусцеў пагорак...

Але не спусцеюць ніколі сэрцы людзей, у якіх жыве і будзе жыць удзячнасць тым, хто, нягледзячы на калектывізацыю і Гулаг, калгасы і лесапавалы, штрафроты, штрафбаты і заградатрады, неймавернымі высілкамі і небывалай крывёй выстаяў і перамог!..

*Спытае нехта: як жывеш?*
*І ты ў адказ кіўнеш: нічога...*
*Пасля спытай сябе самога:*
*Як ты жывеш? Ці так жывеш?*

*Прыйдзі да Вечнага агню*
*І моўчкі, стаўшы на калені,*
*Правер агнём сваё сумленне*
*На праўду і на чысціню.*

*Калі ж устанеш прысягнуць*
*Усім, хто не вярнуўся з бою, —*
*Ты не шукай іх за спіною.*
*Яны наперадзе ідуць.*

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 5 (201), травень 2023 года

# Янка Маўр: рамантык і гуманіст

***«...яму споўнілася б Сто гадоў.***

***Называю гэтую лічбу з пачцівай прапісной літары. І ў той жа час думаю, што ўсім, хто блізка і добра ведаў Маўра, зусім не было б нечакана і дзіўна, калі б раптам сёння на такую прадстаўнічую ўрачыстасць заявіўся раптам ён сам...», — прызнавалася ў сваіх згадках пра Янку МАЎРА Алена ВАСІЛЕВІЧ. Так можна было б напісаць і пра саму мінулагоднюю стогадовую юбілярку — паважаную Алену Сямёнаўну, якая не дажыла да даты «з пачцівай прапіснай літары» ўсяго нейкіх два гады...***

***10 траўня-мая ў непаўторнага Янкі Маўра — 140-гадовы юбілей. З гэтай нагоды мы і публікум згаданы артыкул 40-гадовай даўнасці.***

Алена ВАСІЛЕВІЧ

**Янка Маўр...**

Да самай глыбокай старасці — а ён пражыў восемдзесят восем гадоў — усімі сваімі ўчынкамі Янка Маўр нагадваў хлапчука-свавольніка. Ва ўсім і заўсёды нечаканы выдумшчык і фантазёр, ён і псеўданім сабе выбраў нетутэйшы (настаўнік геаграфіі, Іван Міхайлавіч Фёдараў) — Маўр. Гэта, ні на чыё іншае ў беларускай літаратуры непадобнае імя (сярод нашых жытніх палеткаў, сінявокіх азёр і задуменных дуброў і гаёў), мела дзіўную прыцягальную сілу і так нязвычна зманьвала сваім нетутэйшым зместам: Маўр... Ды і амаль усе першыя кнігі Янкі Маўра былі таксама пра далёкія-далёкія краіны: Новая Гвінея, Інданэзія, Вогненная Зямля, Кітай, Цэйлон, Італія... Адтуль жа з’явіліся і яго дзіўныя героі, якія адразу ж і на ўсё жыццё паланілі дзіцячую душу і ўяўленне.

...Біяграфіі Янкі Маўра ніхто не ведаў, ён яе не пісаў, і ніхто яе не друкаваў нідзе, і таму кожнаму, хто чытаў яго кнігі, уяўлялася, што піша іх нейкі чужаземец, а калі не, то пэўна ўжо нейкі славуты вандроўнік. І якое ж было дзіва, калі выяўлялася, што Маўр ніколі не плаваў па Ціхім акіяне, ніколі не вандраваў і не бачыў тых далёкіх краёў, якія ён апісаў так дакладна і падрабязна, што нават і надта спакушаныя вандроўнікі не верылі: як — свае кнігі Маўр пісаў у Мінску, «на галубятні», у адным з дамоў на Новамаскоўскай вуліцы?

Паслухаем, як расказваў пра тую «галубятню» і пра той час свайго знаёмства з Янкам Маўрам Алесь Якімовіч:

«Дабірацца да Маўра трэба было праз доўгія цёмныя вышкі. І я заўсёды баяўся, каб не разбіць упоцемку лоб аб стаякі. Упершыню на гэтай «галубятні» я ўбачыў энцыклапедыю Бракгаўза і Эфрона, кнігі вядомых падарожнікаў Міклухі-Маклая, Белінгсгаўзэна, Кука, Галаўніна і іншых. Сюды ж прыходзілі пісьмы і пакеты з фатаграфіямі ад эсперантыстаў усяго свету...».

Сакрэт поспеху і выключнай папулярнасці Маўравых кніг абумоўліваўся тым, што задоўга да таго, як у літаратуры з’явіўся пісьменнік Янка Маўр — усе гэтыя кніжкі маляваў у сваім уяўленні, выношваў іх, расказваў сваім вучням на ўроках і толькі потым ужо, праз гады, напісаў таленавіты настаўнік геаграфіі Іван Міхайлавіч Фёдараў.



Іван Фёдараў, будучы Янка Маўр – семінарыст Панявежскай настаўніцкай семінарыі

...А хіба яго ўласнае жыццё было менш цікавае, чым тыя кнігі, якія ён напісаў? Каб упэўніцца ў гэтым, трэба прачытаць яго аўтабіяграфічную аповесць «Шлях з цемры». Яе не назавеш дзіцячай або толькі творам для дзяцей. Яна цікавая і павучальная аднолькава як для дзяцей, так і для дарослага чытача. І напісана яна так, што будзеш чытаць яе, не адрываючыся, як займальную прыгодніцкую кнігу.

Янка Маўр нарадзіўся ў 1883 годзе 28 красавіка (10 траўня па новым стылі) у латвійскім горадзе Лібава (цяпер Ліепая), куды ў пошуках лепшай долі накіраваўся яго бацька, беззямельны беларускі селянін, адстаўны салдат руска-турэцкай вайны... Захаваліся звесткі (і на іх спасылаўся і Алесь Якімовіч у сваёй прадмове да збору твораў Янкі Маўра), што да салдацкай службы бацька Маўра меў прозвішча Ільін... «Але, відаць, нейкі вайсковы пісар у спешцы не дапісаў прозвішча салдата Міхаіла Фёдаравіча Ільіна, і ён стаў проста Фёдаравым. Гэтае прозвішча і дасталося сыну».

Лёс не быў прыхільным да будучага пісьменніка. Стэльмах («колавых спраў майстар» — *Рэд.*) Лібаўскага порта, бацька Янкі Маўра памёр вельмі рана, і маці з сынам вымушана была вярнуцца назад у родную вёску Лебянішкі. (У аповесці «Шлях з цемры» яе назва Гнілушкі.) Там і прайшлі яго дзіцячыя гады. Адтуль і «пайшоў ён у людзі». Зарабляючы падзёншчынай — хто што дасць за работу, абы толькі было чым накарміць і прыкрыць сына — добрая самаахвярная маці здолела, аднак, першай з тых панылых Гнілушак аддаць свайго 9-гадовага сына ў навуку, у пачатковую школу. Адважылася пасляць яго аж за трыццаць пяць вёрст ад дому...

У 1895 годзе Янка Маўр скончыў пачатковую школу і здолеў паступіць у Ковенскае рамеснае вучылішча. «Здолеў», зноў жа, толькі дзякуючы звышсілы намаганням і клопату свае маці.

Гады вучэння ў рамесным вучылішчы былі, бадай, самымі змястоўнымі, самымі цікавымі ў біяграфіі пісьменніка. Тут ён упершыню ў жыцці адкрыў для сябе дзівосны свет Кнігі — свет Мастацкага Слова. Гэты свет здзівіў і захапіў яго, і ён ужо не мог марыць ні пра што іншае, як толькі пра далёкія незнаёмыя краіны і захапляльныя падарожжы па слядах славутых герояў Жуля Верна, Майн Рыда, Фенімора Купера... Затым у яго адбылася і запаланіла яго стрэча з апавяданнямі Тургенева «Запіскі паляўнічага»! Ён чытаў без разбору ўсё, што трапляла пад руку: Дарвіна, Маміна-Сібірака, Купрына, Буніна, Гарына-Міхайлоўскага, Максіма Горкага...



Янка Маўр у 1923 годзе

У 1899 годзе, нарэшце, было скончана і рамесніцкае вучылішча. Матчына мара здзейснілася! Яе сын выйшаў у людзі!.. Аднак падмайстру па слясарнай справе месца працы па тым часе не знайшлося, і ён застаўся тым, кім быў і да: нікім і нічым — бяспраўным і бяздомным Іванам Фёдаравым...

І зноў кланялася бедная маці і каму толькі не служыла яна, каб уладкаваць адзінага свайго сына... І слесар-падмайстар паступіў «на казённы кошт» у настаўніцкую семінарыю ў літоўскім гарадку Панявежыс.

У семінарыі Маўр ужо больш свядома арыентуецца ў рэлігійных і сацыяльных пытаннях, чытае нелегальную літаратуру, знаёміцца з рэвалюцыйнай моладдзю... Даведаўшыся пра яго «неблаганадежность», начальства выключае Янку Маўра з апошняга курса, а паліцыя бярэ з яго падпіску больш не паказвацца ў семінарыі сярод студэнтаў, каб не ўплываць на іх норавы і паводзіны. Усё гэта разам узятае азначала толькі адно: дзверы школы перад Іванам Фёдаравым былі зачынены... І ўсё роўна, працягваючы сваю палітычную самаасвету, ён настойліва рыхтуецца і да здачы экзаменаў экстэрнам таксама за курс семінарыі.

І калі здаў усё ж экзамены, яму было прысвоена званне памочніка... усяго толькі памочніка (!) настаўніка. Вышэй узняцца перашкаджала рэпутацыя палітычна «неблаганадзейнага...». Ад гэтай рэпутацыі ён, аднак, не збіраўся адмаўляцца: і калі ў 1906 годзе ў Мікалаеўшчыне па ініцыятыве Якуба Коласа сабраўся першы нелегальны з’езд настаўнікаў, сярод удзельнікаў гэтага з’езда быў і памочнік настаўніка Іван Фёдараў...

(***NB ад Рэдакцыі.*** Праўнучка пісьменнікаў Янкі Маўра і Якуба Коласа Васіліна Міцкевіч у сваіх успамінах *«Пісьменнік, эсперантыст, медыум і "геніяльны дзед" Янка Маўр» згадвала аб тым перыядзе: «Настаўніцкі з’езд стаў самай яркай падзеяй у дакастрычніцкай біяграфіі Івана Фёдарава. Удзельнікі з’езда падтрымлівалі добрыя адносіны і пасля. У фондах Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа ёсць фотаздымак 1926 года, які свед-*



Янка Маўр – памочнік настаўніка пачатковай школы ў мястэчку Новае Места (Літва)



Настаўнік Мінскай прыватнай гандлёвай школы Янка Маўр з жонкай і дзецьмі

Заканчэнне на стар. 3 »

# Янка Маўр: рамантык і гуманіст

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 2

*чыць аб сустрэчы настаўнікаў — удзельнікаў нелегальнага з'езда праз 20 гадоў пасля яго. Настаўніцкаму з'езду Янка Маўр прысвяціў артыкулы «Сорак гадоў назад» і «Як я пазнаёміўся з Якубам Коласам». Сваю ролю ў гэтай падзеі ён лічыў вельмі сціплай. Нелегальны настаўніцкі з'езд знайшоў сваё адлюстраванне і ў трылогіі Якуба Коласа «На ростанях». Прататыпам аднаго з герояў — Івана Тадорыка, чалавека з «выдатнымі здольнасцямі», — быў Іван Фёдараў.*

*З тых часоў паміж прадзедамі завязалася сяброўства, якое яны пранеслі праз усё жыццё. Падчас Вялікай Айчыннай вайны Якуб Колас перажываў цяжкія гады эвакуацыі ў Ташкенце, Янка Маўр — у Алма-Аце. У лістах пісьменнікі дзяліліся сваімі перажываннямі, творчымі планамі, марамі, радасцямі і горам. Якуб Колас падтрымліваў Янку Маўра не толькі маральна, але і матэрыяльна. Так, ён выслаў яму грошы, якія патрабавалі за навучанне малодшай дачкі Янкі Маўра — Наталлі. Пасля вайны яна стала нявесткай Якуба Коласа, бо ўзяла шлюб з яго малодшым сынам Міхасём. Такім чынам Якуб Колас і Янка Маўр парадніліся».)*


Янка Маўр у 1960-я гады


За працоўным сталом

***

...Я належу да таго пакалення людзей, чыё дзяцінства кнігі Маўра поўнілі шчаслівым жыватворным захапленнем ад нечаканых адкрыццяў і пазнавання незнаёмага дзівоснага свету.

Па падручніку геаграфіі, з указкай у руцэ, калі на ўсю амаль сцяну карты — што тут казаць? — мы не заўсёды ўмелі беспамылкова знайсці, «адкрыць» у бясконца далёкім Ціхім акіяне гэтакія ж далёкія і невядомыя астравы, як, скажам, Ява, Барнэо, Цэлебес, Суматра... Якое гучанне...

Знаходзілі — не знаходзілі, але звінеў званок з урока — і на гэтым навука і адкрыцці канчаліся...

І вось аднойчы, у адзін са шчаслівейшых дзён твайго жыцця, раптам са школьнай бібліятэчнай паліцы знялі і падалі табе ў рукі ўжо як зусім даросламу чытачу кнігу «У краіне райскай птушкі»... Ты адолеў яе за адзін дзень і вечар (дзеля ісціны заўважым, зусім забыўшы вывучыць урокі на заўтра). Потым ты прачытаў другую кніжку Янкі Маўра — «Сын вады». А потым ужо і зусім «дарослую» — раман «Амок». (Прычым ты не ведаў яшчэ, дзе трэба правільна ставіць націск у гэтай незразумелай назве, і чытаў яго — і падсвядома так ён і застаўся ў цябе на ўсё жыццё — як «Амóк», а трэба «Áмок»... (Магчыма, тут у папярэдняй публікацыі была адрукоўка, бо тады, згодна з беларускай арфаэпіяй, мусіць гучаць — «Áмак». — *Рэд.*)).

Божа мой, ты чытаў, ты забываў усё на свеце — і перад тваім узрушаным уяўленнем так выразна і так бачна з'яўляліся тыя ж самыя астравы і краіны ў Ціхім акіяне, якія на ўроку геаграфіі, поўзаючы па карце, ты шукаў гэтак падоўгу і не заўсёды знаходзіў іх... А яны ж — вось яны былі! Ява, Барнэо, Суматра...

...Але ў кнігах Янкі Маўра ты не проста знайшоў гэтыя астравы і гэтыя краіны — там ты адразу ж і адшукаў сабе сяброў. І сам стаў адданым сябрам гэтых цёмнаскурых, адважных, высакародных людзей. Стаў здольным сам пайсці ім на дапамогу, а калі трэба, дык і на смерць — у барацьбе за Праўду, Волю і Роўнасць усіх людзей на зямлі...

Кнігі Янкі Маўра знаёмілі беларускіх дзяцей (ды і не толькі дзяцей беларускіх — яны перакладаліся на мовы народаў СССР і ў замежных краінах) з жыццём і барацьбой за незалежнасць народаў Інданэзіі, Цэйлона, Новай Гвінеі.

Раман «Амок» быў першым раманам для дзяцей. У аснове яго ляжаць гістарычныя падзеі — захоп галандскага вайсковага карабля «Саардам» і паўстання яванскага народа супраць каланізатараў на востраве Ява ў 1926 годзе.

...Ну, а што яшчэ пакінуў Янка Маўр сваім чытачам?

Ды цэлую бібліятэку!..

Разам з Маўрам у дзіцячай літаратуры тэматыка не проста пашыралася, — яна выйшла далёка за берагі звычна нацыянальных з'яў і вобразаў. Маўр прыйшоў у дзіцячую літаратуру яшчэ і як першаадкрывальнік новых жанраў. Напрыклад — навукова-папулярнага жанра — яго аповесць «Чалавек ідзе». Усімі, без выключэння, дзецьмі (ды і не толькі дзецьмі — дарослыя таксама) любімы прыгодніцкі жанр бліскуча выявіў сябе, як у яго «экзатычных» творах. Пра якія гаворка ішла вышэй, гэтаксама і ў яго славутых «Палескіх рабінзонах» — кнізе пра харáство і багацце беларускага Палесся, пра мужнасць, адвагу і высакароднасць яго людзей, яго галоўных герояў — хлапчукоў Мірона і Віктара. «Палескія рабінзоны» экранізаваліся — іх глядзелі, імі захапляліся з экрана не адны дзеці.

Аповесць «ТВТ» («Таварыства ваяўнічых тэхнікаў»).

(***NB ад Рэдакцыі.*** *«ТВТ» сюжэтна пераклікаецца з вядомым савецкім творам Аркадзія Гайдара «Цімур і яго каманда». На гэтай падставе вульгарызатары 30—40-х гадоў, якія крытыкавалі «ТВТ», папракалі аўтара ў перайманні Гайдара. Аднак аповесць «Цімур і яго каманда» была напісана на шэсць (!) гадоў пазней за «ТВТ» Янкі Маўра.*)

Давайце на хвіліну прыпынімся і пагартаем старонкі гэтай аповесці. Пачытаем і ўспомнім, хто ведаў і памятае Маўра, само гучанне Маўравага слова, яго гумар, гарэзлівую ўсмешку яго прыжмураных вачэй, якія, здавалася, бачылі людзей, свет і жыццё наскрозь. Паслухаем Маўрава слова:

«Загаманіў свет і падзяліўся на дзве часткі.

— Вось гэта я разумею! — казалі ў адной частцы свету. — Цяперашняя моладзь не будзе гэтакай бездапаможнай, як мы. Усё сама зробіць.

А ў другой частцы свету чуліся іншыя галасы:

— Ну, калі мужчыны пачнуць панчохі цыраваць ды кашулі латаць, а жанчыны пры́мусы ды боты рамантаваць, тады парадку










не будзе. Спрадвеку кожны займаўся сваёй справай.

Трэба ўсё ж адзначаць, што ў гэтай другой частцы свету налічвалася вельмі мала народу...».

...Як бачым, жартаўлівае прадказанне Маўра дзесяцігоддзі таму назад у наш ужо час збылося ўсур'ёз: жанкі не толькі рамантуюць прымусы і боты, нават самалёты рамантуюць і лётаюць у космас... А мужчыны таксама набылі сабе небясхлебнае, сур'ёзнае і заўсёды надзейнае становішча: хто, скажам, цяпер узначальвае ўсе самыя што ні на ёсць жаночыя справы і заняткі на той ці іншай кандытарскай або галантарэйнай нашай «Камунарцы» або «Камсамолцы»? Вядома ж, майстры — мужчыны!..

Паўтару яшчэ раз: пасля Маўра засталася цэлая бібліятэка кніг. «Шлях з цемры», «Аповесць будучых дзён», «Фантамабіль прафесара Цылякоўскага», кніга апавяданняў «Слёзы Тубі», п'есы. Пераклады, публіцыстыка, палітычныя памфлеты і фельетоны...

І яшчэ адна неацэнная заслуга Янкі Маўра — гэта яго палымяная ініцыятыва і падтрымка ў стварэнні кнігі «Ніколі не забудзем», напісанай самімі дзецьмі, якія выцерпелі жахі фашысцкіх канцлагераў і няволі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Ніколі не павінны забыць гэтыя пакуты дзяцей, павінны ведаць і памятаць пра іх — усе людзі на зямлі. У імя таго, каб яны не паўтарыліся ў другі час, з іншымі дзецьмі.

У гэтым быў галоўны сэнс кнігі беларускіх дзяцей «Ніколі не забудзем».

***

Янка Маўр, як не кожны з дзіцячых пісьменнікаў, умеў радавацца дзіцячаму шчасцю. У яго ёсць і апавяданне пад такой назвай — «Шчасце»...

Хлапчуку маці купіла новую шапку. І вось ён ідзе, перапоўнены сваёй дзіцячай радасцю, і не ведае, як і каму расказаць пра яе. А расказаць хочацца ўсім! Кожнаму стрэчнаму хочацца расказваць пра яе: «Глядзіце, якая ў мяне шапка!».

І вось адным такім стрэчным быў якраз аўтар гэтага апавядання, таксама шчаслівы чалавек — у той дзень прыветна свяціла сонца і так звінелі птушкі ў небе, і смяяліся травы і кветкі!..

І вось яны параўняліся, два шчаслівых чалавекі, прыпыніліся і паглядзелі адзін адному ў вочы, чакаючы кожны яшчэ і нейкіх незвычайных слоў...

— Якая ў цябе цудоўная, брат, шапка! А казырок як блішчыць! — здагадаўся і не стрымаў свайго захаплення старэйшы...

— Гэта мама мне купіла! — яшчэ больш заззяў малодшы і подскакам, доўга яшчэ азіраючыся, далей паімчаў на «бярозавым кані» — па раздольнай дарозе свайго дзяцінага бязмежнага шчасця.

Я чула гэтае апавяданне з вуснаў самога Янкі Маўра некалі ў нашых Каралішчавічах (пісьменніцкім Доме адпачынку непадалёк ад Мінска. — Рэд.), яшчэ да таго, як яно было апублікавана. І трэба было бачыць, якім шчаслівым, як дзіця, ён адчуваў сябе, сам расказваючы пра тую выпадковую шапку!

Думаю, што толькі такім і мог быць пісьменнік, які ўсе свае кнігі напісаў дзецям і пра дзяцей.

***1983 г.***


І ў адпачынку

# «Фальшывая» даведка

## (Урывак з рамана «Спадчына»)



Алесь АРКУШ

Адзінае, чаго не магу зразумець, чаму бацька не распавёў гэтую гісторыю раней. Не лічыў яе вартай увагі? Ці проста забыўся на тыя даўнія падзеі? А можа, не хацеў мяне ўблытваць няхай сабе ў даўнюю, але цьмяную крымінальную справу? Маўляў, лепш не чапаць ліха.

У той год, калі я наведаў бацьку на лецішчы, ён ужо быў зусім кволы. Твар яго пачаў высыхаць: шчокі ўваліліся, вочы згублілі знаёмае мне з маленства ззянне. Раней, прынамсі, мне так здавалася, яны ўвесь час пасміхаліся і нястомна выпраменьвалі жыццярадаснасць і аптымізм. Я нават і не памятаю, ці бачыў калі-кольвечы бацьку ў нейкай зацятай, доўгатэрміновай роспачы або нават разгубленасці.

Цяпер вочы былі ніякія. Нібыта яны перасталі падпарадкоўвацца бацьку. І адчувалася, што ў яго не было ўжо ўнутраных сілаў, каб вярнуць над імі кантроль.

Аднак ён не збіраўся сядзець склаўшы рукі, утаропіўшыся ў тэлевізар. Бацька па-ранейшаму корпаўся ў бульбяных разорах, паліваў грады, збіраў каларадскіх жукоў, абкошваў газон электракасілкай і рабіў шмат чаго іншага. Як і летась. Як і пазалетась. Толькі трэба было бачыць, як цяпер гэта ўсё яму давалася. Здаецца, зусім нядаўна я мог сабе дазволіць лекцыю перад бацькамі на тэму: каму гэта трэба і ці акупаецца эканамічна такая праца? Сёлета ўсё было інакш. Гэта было зацятае змаганне за жыццё. І нават калі я пачаў яму дапамагаць, ён усё адно знаходзіў, што рабіць, чым заняцца яшчэ.

Калі на дварэ стала зусім горача, маці загнала нас у хату і загадала бацьку паляжаць на канапе. Не сказаць, каб ён узрадаваўся гэтай камандзе, але падпарадкаваўся, зняў у калідорчыку абутак і працоўную спяцоўку, апрануў спартовыя штаны і пасунуўся да канапы.

Я ўзняўся на другі паверх, лёг на ложак і пачаў чытаць новы нумар «Дзеяслова», які прыхапіў з сабой у дарогу. Ад спёкі галава кепска цяміла, і мне надаралася асобныя сказы чытаць па некалькі разоў, каб дапяць да сэнсу. Калі б я заснуў, мне быў бы гарантаваны цяжкі галаўны боль да самага вечара.

Праз гадзіну я спусціўся на першы паверх. Бацька ляжаў на канапе тварам да столі. Яго вочы былі расплюшчаны. «Відаць, не спіць», — падумаў я. Тады я зноў узняўся на другі паверх і знайшоў у сваім заплечніку дыктафон. Некалькі разоў, у ранейшыя гады, я спрабаваў запісаць бацькавы ўспаміны, але ўсё нешта ў мяне не атрымлівалася. Аднойчы пачаў пісаць, але падвяла батарэйка. «Ужо трэба спяшацца, каб не спазніцца», — і я нервова пацепнуў плечукамі ад такой думкі.

Падсунуў крэсла да канапы і сеў насупраць бацькавай галавы. Але ён ніяк не рэагаваў на маю прысутнасць.

— Не спіш? — спытаў яго.

— А... што? — замармытаў ён, нібыта вынырнуў з нейкіх сваіх думак.

— Кажу, не спіш? — паўтарыў я сваё пытанне гучней, бо ведаў, што апошнім часам і слых пачаў падводзіць бацьку.

— Не сплю, — адказаў ён ужо ўпэўненым голасам.

— Памятаеш, я спрабаваў запісаць твае ўспаміны. Можа, зараз паўторым? — мае словы прагучалі максімальна дыпламатычна, нібыта зварот доктара, які спрабуе штосьці патлумачыць хвораму.

— Што там згадваць, нават і не ведаю, пра што табе расказаць, — бацькавы вусны паспрабавалі пасміхнуцца, але гэта не зусім атрымалася.

— Жыццё пражыць — не поле перайсці, — паспрабаваў я пажартаваць.

— Сапраўды, — пагадзіўся бацька.

Мы пару хвілін памаўчалі.

— Ну што, пачынаем? — парушыў я маўчанне.

Бацька павярнуў галаву ў мой бок, зноў паспрабаваў усміхнуцца, пачаў прыўзнімацца, і я дапамог яму сесці.

— І пра што ты хочаш пачуць? — бацькаў голас гучаў стомлена і крыху разгублена.

— Ну нешта такое, пра што ты мне раней не расказваў. Што-небудзь цікавае, — сказаў я, уключаючы дыктафон.

Мы зноў памаўчалі пару хвілін.

— Ну слухай, — пачаў бацька свой расповед. — Пра гэта сапраўды ніколі табе не расказваў. У нас у Жодзіне жыў адзін вельмі разумны, спрытны і адукаваны чалавек. Прозвішча яго была Шагойка. Ён падчас вайны быў у партызанах. Добра ведаў нямецкую мову і сабраў вакол сябе хлопцаў, якія таксама яе ведалі. Падрабляў дакументы і атрымліваў на нямецкіх складах у Смалявічах не толькі прадукты і вопратку, але і зброю. Вось такі быў смелы і ўмелы. Скончылася вайна. Але ён не забыўся на свой промысел. Зноў арганізаваў каманду, і пачалі яны падрабляць ужо савецкія дакументы. І не толькі складскія накладныя, але і розныя даведкі і нават дыпломы. У яго была процьма грошай. Як у банку. Але хтосьці яго выдаў, Шагойку злавілі і саслалі ў лагер. Там недзе ён і загінуў. Але гэта не ўся гісторыя. Як ты ведаеш, спачатку ў Жодзіне пабудавалі завод «Дармаш», на якім рабілі дарожныя машыны. Гэта ўжо затым «Дармаш» стаў Беларускім аўтамабільным заводам. У нас у сям'і было шасцёра дзяцей. Я старэйшы. У шаснаццаць гадоў кінуў школу і пайшоў вучнем токара на той завод. Трэба было дапамагаць бацькам утрымліваць сям'ю. Маім настаўнікам стаў нехта Сіманчык. Ён якраз уваходзіў у тую славутую банду падробшчыкаў. Падвучыў мяне крыху, а затым увогуле не хадзіў на працу. Атрымае заданне, а я за яго раблю. З мяне някепскі токар атрымаўся. Сіманчыка таксама арыштавалі. І больш яго ў Жодзіне ніхто не бачыў.

Бацька замаўчаў, утаропіўся ў вакно і затым нейкім сцішаным голасам дадаў:

— У саўгасе ёсць такі цагляны клуб. Напэўна, ён яшчэ захаваўся. Ну той, што за ракой. У іх там схоў быў. Хтосьці з падробшчыкаў у тым клубе працаваў. Неяк я падслухаў размову Сіманчыка з невядомым мне чалавекам. Вось такая гісторыя.

Бацька зноў замаўчаў і прылёг. Гэтыя некалькі хвілін размовы, відаць, яго стамілі. Я паправіў падушку і выключыў дыктафон.

Зрабіў некалькі крокаў, каб сыйсці, але спыніўся, павярнуўся да бацькі і спытаў:

— Не паверу, што ты не шукаў той схоў.

— Шукаў, але нічога не знайшоў, — адказаў ён з абыякавасцю ў голасе і не павярнуўшы галавы ў мой бок.

<...>

«Прыязджай, звазджу цябе на тое месца, куды ты хацеў патрапіць». Гэтага званка брата мне было дастаткова, каб у той самы вечар выправіцца ў дарогу.

Ехаў начным цягнікам да Менска, а там маршруткай.

Па дарозе ўзнікалі ў маёй галаве розныя версіі адносна таямнічага запрашэння. Самая простая — брат раздабыў ключ ад зарэчнага клуба, і цяпер мы можам у яго патрапіць.

Самая фантастычная — брат сам усё абследаваў і нешта істотнае знайшоў. Але ў гэта не вельмі верылася. Зрэшты, якіх толькі цудаў не бывае на свеце.

Трэба прызнаць, што версія, якая супала б з рэальнасцю, у маёй галаве дакладна не ўзнікала.

Насамрэч клуб перадалі мясцовай пратэстанцкай абшчыне, якая пачала рамант будынка, каб пераабсталяваць яго ў малельню.

Калі мы прыехалі, на клубе поўнай хадою ішлі падрыхтоўчыя працы. На сцяне занядбанага будынка з'явілася дошка «Пашпарт аб'екта», з якога вынікала, што тут адбываецца мадэрнізацыя гэтай спаруды па вуліцы Зялёная, 5.

Вакол былога клуба некалькі мужчын збівалі з дошак рыштаванні. Частку шыфера з даху ўжо паспелі зняць. Уваходныя дзверы былі адчыненыя.

Віктар падышоў да мужчынаў, якія завіхаліся каля рыштаванняў, і спытаў дазволу ўвайсці ў клуб. Будаўнікі не мелі нічога супраць.

У сярэдзіне нас сустрэлі бязладдзе, запусценне і будаўнічы вэрхал. У адным з кутоў галоўнай залі будаўнікі трымалі свой рыштунак, а таксама дошкі і нейкія металічныя трубы. Усё было пакрыта вялікім слоем пылу, як быццам бы тут ён збіраўся стагоддзямі. Калі мы выйшлі ў цэнтр залі, то за намі засталіся сляды, як на снезе. Пра былое прызначэнне будынка нагадвалі некалькі зламаных крэслаў, якія за савецкім часам выкарыстоўваліся ў кіназалах, рэшкі нейкіх плакатаў і афішаў на падлозе, скасабочаны партрэт даўно забытага актора з падмаляванымі вусамі, які невядома як, з апошніх сілаў, трымаўся на сцяне.

— Культура гэты будынак пакінула ўжо даўно, — азіраючыся па баках, прамовіў брат.

— Але актор трымаецца з апошніх сілаў, — пажартаваў я, кіўнуўшы галавой у бок партрэта на сцяне.

Брат падышоў да партрэта і паправіў яго.

І што ў гэтым вэрхале можна было адшукаць, і што тут магло захавацца? Мы зазірнулі ў некаторыя іншыя пакоі, і акрамя смецця з мінулага стагоддзя, а таксама засохлых экскрэментаў, відавочна ўжо з нашага стагоддзя, нічога не пабачылі.

— Ты думаў, што тут стаіць нейкая шафа, а ў ёй тое, што схавалі «шагойкаўцы»? — У брата з'явілася добрая нагода з мяне жартаваць і пацвяліць.

— Не, проста мусіў сюды патрапіць, — пачаў я апраўдвацца перад братам. — Бо гэтая гісторыя павінна набыць нейкі лагічны канец, бо, адчуваю, яна звязаная з лёсам нашай сям'і. Часам легенда пра скарб больш істотная за сам скарб. Скарб знайшлі, скрасталі — і ўсё. А легенда жыве стагоддзямі. Нават пра той скарб, які не знайшлі. Разумееш?

— Разумею? Скарб мы не знайшлі, і легенду таксама. — Брат не збіраўся так лёгка адмовіцца ад крытыкі марнага візіту.

— Легенду ствараюць людзі. Спачатку тыя, пра каго гэтая легенда. А затым тыя, каму яна цікавая і патрэбная.

— А нам яна цікавая, ці патрэбная?

— Нам яна важная, каб зразумець свой уласны лёс і каб быць удзячнымі тым людзям, якія не дазволілі нашаму сямейнаму лёсу абарвацца, каб мы з табой увогуле з'явіліся на свет.

— Штосьці я цябе не зусім разумею, — паціснуў плячыма брат.

— Увечары патлумачу.

Брат выйшаў на вуліцу, а я пачаў яшчэ раз уважліва аглядаць пакой за пакоем. Нічога істотнага не заўважыў. Я шукаў любое прыдатнае месца, з якога можна было б зрабіць схованку. Але ў пакоях былі толькі голыя сцены, дзе-нідзе з адбітай тынкоўкай. Нарэшце ўвайшоў у невялічкае памяшканне, адкуль некалі кінамеханік пускаў фільмы. У ім было цёмна, і толькі дзве палоскі святла пранікалі ў пакойчык праз адтуліны для кінапраектараў. У гэтым цьмяным святле, як штосьці халоднае, мёртвае, касмічнае, клубіўся пыл.

Я прамацаў сцены рукамі. Звычайныя сцены. На гарышча ўзнімацца не было ніякага сэнсу. З даху прыбралі шыфер, і гарышча ўжо практычна не існавала.

Увечары на пляцыку перад уласным домам брат гатаваў свой фірмовы плоў у сваім фірмовым казане.

Мы сядзелі за сталом на верандзе, глядзелі на тое, як вечаровае сонца залаціла вершаліны хвояў. Лес пачынаўся практычна за плотам братавай сядзібы.

— І што ты мне збіраўся патлумачыць? — першым парушыў маўчанне брат.

Мне хацелася гэта распавесці з пэўнай прэамбулай, неяк цікава, каб брату тое запомнілася надоўга. Але без усялякай прэамбулы выпаліў:

— Думаю, што Шагойка моцна дапамог сям'і нашай мамы. Практычна выратаваў яе ад страшнай галадухі.

— У сэнсе? З чаго ты гэта ўзяў?

— А ты калі-небудзь гартаў кнігу «Памяць» Смалявіцкага раёна? Там усё падрабязна напісана пра мінулую вайну. Спісы тых, хто быў у партызанах, хто быў на фронце, хто загінуў на вайне, хто з мірных жыхароў быў закатаваны фашыстамі. Прычым, спісы складзеныя па вёсках. Дык вось, у тых спісах зусім няма нашага дзеда Захара. Зусім. Ні ў партызанах, ні на фронце, ні забіты на вайне, ні закатаваны фашыстамі як мірны жыхар. Яго зусім няма. І можна лёгка здагадацца, у якіх ён апынуўся спісах.

— У якіх?

— У спісах ворагаў народа. Як стараста вёскі Бабін Лес.

На некалькі хвілін усталявалася цішыня. Было нават чутна, як выкіпала апошняя вада з плова. Я перапыніў маўчанне і пачаў тлумачыць свае здагадкі, якія не давалі мне супакою апошнія некалькі тыдняў.

— Ты, відаць, не раз чуў ад мамы гісторыю пра тое, як пасля вызвалення Беларусі, калі нашая бабуля Наста засталася адна з васьмю дзецьмі, наступілі жахліва галодныя часіны, горшыя, чымсьці пад акупацыяй. Мама любіла тут абавязкова прыгадаць, што яна ўдосталь не ела хлеба да пачатку 50-х гадоў. І тут пачынаецца самае цікавае месца гэтай важнай для нас з табой гісторыі. Паводле мамінага расповеду, нейкія былыя партызанскія камандзіры выпісалі бабулі даведку на дзеда як на партызана-змагара, які быў закатаваны немцамі. З гэтай даведкай бабуля едзе ў Менск і атрымлівае некалькі мяхоў гуманітарнай дапамогі — харчы і адзенне. А потым гэтая выратавальная даведка дзіўным чынам некуды знікае. І неўзабаве дзед перастае быць партызанам-змагаром, а яго дзеці губляюць усе належныя ім прывілеі. Як ты лічыш, хто мог выпісаць гэтую даведку нашай бабулі?

— Ты думаеш, сам Шагойка?! — уражана ўсклікнуў Віктар.

— Не думаю, а ўпэўнены. Больш ніхто гэтага не мог зрабіць. Сапраўдныя партызанскія камандзіры былі ўжо або далёка на франтах, або самі знаходзіліся пад пільным разборам палётаў, якія ладзілі ім энкаусаўцы. Пісаць даведку былому старасту, хоць ён насамрэч працаваў на партызанаў, ніхто б не насмеліўся. За камандзірамі было шмат іншых грахоў. Навошта рызыкаваць? Толькі Шагойка. Хто-хто, а ён добра ведаў, якія заданні насамрэч выконваў дзед, прычым не цяжка здагадацца, што гэта былі суперсакрэтныя заданні, пра якія ведалі лічаныя людзі ў брыгадзе. Напрыклад, менавіта наш дзед прывозіў са Смалявічаў партызанам чыстыя бланкі і накладныя. І Шагойка павінен быў гэта ведаць.

— Сапраўды, досыць лагічна атрымліваецца. Асабліва, калі ўлічыць, што ў кнізе «Памяць» дзеда няма.

— Во-во. І пра тую даведку ведалі толькі сам Шагойка і бабуля. Знікла тая паперка на дзіва хутка і затым нідзе не фігуравала. Бо калі б яна выпісвалася ў афіцыйных структурах, дык яе можна было б аднавіць. Але бабуля не рабіла ніякіх спробаў па аднаўленні, хоць тая даведка ёй як яшчэ спатрэбілася б.

Хвоі за плотам ужо «гарэлі» ў апошніх промнях знікаючага за далягладам сонца. Кіламетраў за дзесяць адсюль пачыналася партызанская зона брыгады «Смерць фашызму». Недзе па гэтых лясах блукалі нашыя дзяды. У пошуках сваёй долі. І нашай таксама. Кніга «Памяць» — гэта толькі кніга. Нашая памяць — гэта нашая памяць. Гэта тое, што мы павінны аднавіць і захаваць.

Неяк так мне тады падумалася.

— Напэўна, твой плоў ужо гатовы, — сказаў я брату, які таксама сядзеў у задуменні.

— Напэўна.

Брат устаў і пасунуўся да свайго фірмовага казана. Зрабіўшы колькі крокаў, спыніўся, павярнуўся да мяне і сказаў:

— Шкада, што Шагойка ўжо не жыве.

— Ну так, — пагадзіўся я. — Інакш бы мы яго пачаставалі пловам.

І мы з братам разам засмяяліся, здымаючы з сябе напружанне, радуючыся і за бабулю Насту, і за дзядоў, і за Шагойку, і за саміх сябе.

# Святло ў вачах



Марына НАТАЛІЧ

***

*Сярод россыпу жоўценькіх*
*Дзьмухаўцоў*
*Толькі адзін аксакал —*
*На вузлаватай назе*
*Белая галава.*
*Кліча яго дзядулем*
*Гарэзлівая малеча,*
*Рагоча без дай прычыны:*
*Самая раніца траўня,*
*А ён ужо такі сівенькі!..*

***

*Таму ты такая самотная,*
*Лёткая ластаўка ў небе,*
*Што ў твайго сябрука*
*Нават наймення мужчынскага*
*Няма, не было і не будзе…*

***

*Мой каханы,*
*Лёсам наканаваны,*
*Што ведаем мы*
*Пра яго выборы?*
*То палыну ліне*
*Ў арабінавае віно,*
*То ў студні бяздоннай*
*Пакажа дно.*
*То пяшчотай апаліць,*
*То сцюжаю абвее, —*
*На вятрах мілосці*
*Палаю-калею.*
*А лёс рагоча,*
*Стары белачубы,*
*Як ты нямееш*
*У адчаі ад згубы.*
*Што́ мы яму, каханкі,*
*Не вартыя жалю падранкі,*
*Кволыя птахі*
*Без апранахі?*
*Выштурхне з сэрцавіны кахання —*
*Ні спагады няма, ні адхлання.*
*Сэрцайка ўшчэнт разаб'ецца,*
*А лёс бессаромна смяецца*
*І шыбуе далей*
*Шукаць маладзенькую пару —*
*Забаўку і ахвяру…*

### Мастаковыя сны

*Клопат збуду —*
*Гуляю ў пацеркі:*
*Жэмчуг чорны,*
*Перлінкі белыя.*
*Ночкі цёмныя,*
*Ранні імгненныя…*

*Бог за мной*
*Падглядае ўпотайкі:*
*Раптам я што прыдумаю новае —*
*Сіне-светлае,*
*Пекна-ружовае.*
*Ён мяне разумее,*
*Самотную…*

***

*Не сястра, не каханка,*
*Не дачка я табе —*
*Падчарка.*
*Не змяя-камняломка,*
*Не жонка ласкавая —*
*Яшчарка,*
*Безабаронная, нецікавая,*
*стылая,*
*Вачам — не пагляднная,*
*Сэрцу — не мілая.*
*Навошта злавіў ты мяне,*
*Утаймаваў, прыручыў,*
*Як святло ў вугальку,*
*Прысабечыў злоўлены пламень,*
*А потым раптоўна адрынуў,*
*скамечыў*
*Выклікам хлёсткім:*
*«Хачу і хлушу!..»*
*І стаў дом мой —*
*трывушчы камень,*
*У ім яшчарка залатая*
*схавала душу.*

***

*Празрыстасць вінаграду — радасць,*
*Смуглявасць вінаграду — сум,*
*І вінаватасць далягляду*
*За вырай нашых лёгкіх дум.*

*Віна зялёны вір і морак,*
*І патанулы райскі сад,*
*Зноў вінаграду сыты голад,*
*Начэй паўднёвых зарапад.*

*Усё гэта там, за даўнім часам,*
*У снах, у восеньскіх начах,*
*Дзе я не чайка над баркасам —*
*Святло ў вачах.*



Алена ГІНЬКО

### Самотная птушка

*Дзіўная, незразумелая,*
*ад палыну ап'янелая,*
*з вераю, спадзяваннямі,*
*з вечнымі расчараваннямі.*
*З золкамі і змяркаваннямі,*
*стрэчамі і расстаннямі,*
*з лекамі і атрутаю,*
*вольная і закутая.*
*З ружамі і рамонкамі,*
*ціхая — надта звонкая,*
*добрая — і найгоршая,*
*горкая — найсалодшая.*
*Птушкаю адзінокаю*
*лётае і галёкае,*
*будзіць абшары шэрыя*
*болем, трывогай, вераю.*
*…Вечныя супярэчнасці*
*На раздарожжах вечнасці.*

***

*Прадчуванне бізкага дажджу —*
*быццам бы чаканне спаявдання.*
*З ім хачу зацятасці іржу*
*змыць з душы, каб не было і звання.*

*Стоенасць прыроды данясе*
*да цябе патрэбу ачышчэння.*
*Ад праблем, што ўзычыў фарысей,*
*хочацца хоць нейкага збавення.*

*І калі прарве на небе гром*
*гэтую затоеную роспач,*
*ты заплачаш ліўнем наўздагон,*
*ты з прыродаю пабудзеш поплеч.*

*…Вось і дыхаць стала ўжо лягчэй.*
*Вочы ўжо дабрэйшыя, не тыя.*
*Хоць на споведзь не хадзіла ійчэ —*
*Мне цяжар з душы залева змые.*

***

*Зялёны ліст кранае пазалота,*
*калі ляцяць у вырай журавы…*
*Халодныя дажджы,туман і слота…*
*На скронях снег — гарчэй палын-травы.*

*Гарыць ліхтар агеньчыкам самотным*
*у цемры паміж сцішаных дамоў.*
*Іду адна вандроўнікам гаротным.*
*Ліхтар то ўспыхне, то прыцьмее зноў.*

*Шляхі і ростані… Святло і цемень…*
*Бясконца хваляй б'юся ў берагі.*
*А чалавек — пясчыначка, не крэмень.*
*Дзе мой прыстанак і прытулак ад тугі ?!*

*Дзе промень мой вясновы і гарэзны?*
*Дзе лецейка жаданае? Дзе май?*
*Трымціць душа струной надрэзанай.*
*…Трымай мяне, саломінка, трымай.*

***

*Прыгажуняю,*
*чараўніцаю,*
*падарункам чыйгось жытла,*
*яркай зоркаю Мілавіцаю,*
*называлі…*
*А… ці была?*
*Пекнай ягадкай,*
*гожай краскаю,*
*звонкай песняю ручая,*
*незвычайнай*
*чыёйсьці казкаю*
*называлі…*
*Была ж — не я…*
*За асокамі,*
*за аблокамі*
*птушка шчасця галёкае: дзе?..*
*Мо галёкае, адзінокая,*
*мо купаецца ў слёз вадзе?*



Наталля БОНДАР-ГАЛАВАЧ

***

*Вецер.*
*Дождж.*
*Слота.*
*Ішоў чалавек па вуліцы.*
*Наўздагон за ім старасць,*
*туга,*
*адзінота…*
*А тут яшчэ вецер…*
*Дождж…*
*Слота…*

### У Венецыі з Бродскім (парафраз на тэмы)

*Мае шпацыры з Бродскім*
*па каналах*
*Венецыі самотнай і туманнай*
*Так значаць шмат.*
*І значаць вельмі мала,*
*Бо сварыцца за нашы стрэчы*
*мама.*

*Ёй замінае розніца ва ўзросце.*
*Ну што там нейкіх*
*дваццаць год ці болей?*
*Затое падыходзім мы па росце*
*І па заўсёднаму жаданню волі.*

*Яго і «э-э…», і «а-а…»,*
*як гук лагуны,*
*Як рыскі на прыціхлых*
*водных хвалях.*
*Гайдаецца на іх старая шхуна,*
*Друкуюцца адвечныя скрыжалі.*

*Мне Одэна чытае ён і Фроста*
*У «Фларыяне».*
*Дольчы мы не елі.*
*Плануем яшчэ сёння*
*да пагосту*
*На улюбёны востраў Сан-Мікеле.*

*Праз гукі песні тужнай гандальера*
*І крыкі-стогны чаек, шоргат качак,*
*І дух самога Дантэ Аліг'еры,*
*І звон касцёльны —*
*плачам, плачам, плачам…*

*Што ў свет сплывуць*
*бясконцыя нябёсы*
*Такім невычарпальным*
*пульхным цудам,*
*І мы радкамі —*
*вершамі ці прозай —*
*Гукаць аднекуль іх*
*аднойчы будзем.*

*І што заўсёды недзе тут*
*пад горлам*
*Каляны ком. І ў вечным*
*тым кружэнні*
*Слядкуе па пятах за намі гора,*
*І смерць бліжэй ужо,*
*чым нараджэнне.*

*А мы ў пакутах цешым*
*сябе казкай*
*Пра нейкага такога дабрадзея,*
*Жывем са спадзяваннямі*
*на ласку,*
*На ласку, на жыццё і на надзею.*

*Нібыта вернуцца і вечны свет,*
*і слава,*
*Удалы дзень, і будзе*
*ўдосталь хлеба.*
*Нібы жыццё хіснецца*
*крышку ўправа,*
*Як перад тым хіснулася улева.*

*Венецыя не ведае марозу,*
*Ёй уласціва восеньская просінь.*
*Але я мерзну ў крушні на парозе,*
*І паліць, як заўжды, зашмат Іосіф.*

### Калі ты — Бог…

*Мама ў дзяцінстве была сонцам.*
*З яе пачынаўся дзень.*
*Потым акенцам.*
*Яна адкрывала свет.*
*Потым ахоўнікам.*
*Вартаўніком калі ста́ла —*
*Злавала мяне.*
*Раздражняла.*
*Потым зусім яна*
*быццам патрэбна была, быццам не.*
*У час апошні яна стала Богам.*
*Сказаць бы…*
*Няма каму.*
*Але, мама, калі ты — Бог,*
*Дык мяне чуеш?*

### Скрыпач

*Ты той, каго няма даўно,*
*Гадоў са сто, а можа й болей.*
*Кафэ «Марозіва». Кіно.*
*Канец семестра. Лета!*
*Воля!*

*Абутак новы. Мазалі.*
*Я басаножу па асфальце,*
*А ён гарачай ззяе смальтай,*
*І ногі просяць — па зямлі.*

*Няма яшчэ ніякіх страт.*
*Я па-над Віцебскам, як Бэла,*
*Лунала, бегала, ляцела,*
*Не азіралася назад.*

*І ты са скрыпкай побач плыў*
*Такім анёлам кучаравым,*
*Не звыкшыся да крыку «Брава!»,*
*Ніхто яшчэ нікім не быў.*

*Яшчэ не сцэзлі праз гады,*
*І душы адкрывалі свету.*
*Калі б я ведала тады,*
*Што восень будзе пасля лета,*

*Што так квітнець не зможа сад,*
*А ён і быў найбольшым скарбам, —*
*Усё зламае час, як кат,*
*З пагляду змые шчасця фарбы.*

*Або ледзь чутна, пакрысе*
*Старой масніцай злосна рыпне…*
*Ды ўсё ж праз горад панясе*
*Юнак і туфлі мне, і скрыпку.*

*А калі сціснуць халады,*
*І часу застанецца мала,*
*Я ўбачу скрыпача сляды*
*На дахах віцебскіх Шагала.*

# Мазур



Валерый КАЗАКОЎ

Мазур плакаў, непрыгожа, па-дзіцячы шырока размазваючы слёзы па запалых, даўно няголеных шчоках. Плакаў роўма, захлёбваючыся, падвываючы пракураным, сіплым голасам. Часам гэтыя працяглыя гукі жалю і бездапаможнасці, адкрытыя і шчырыя, як малітва, захрасалі дзесьці глыбока ў горле і ператвараліся ў нечалавечы, пульсуючы ў гартані лямант. Адгадваючы няясныя контуры надыходзячай смерці, чалавечая існасць замірала дзесьці ў глыбіні пахаладзелай душы і выпускала вонкі сваю звярыную сутнасць, якая ведала ўсё, усё разумела і, толькі не ўмеючы гаварыць, ператварала чалавечую гаворку ў старажытнае і знаёмае прыродзе выццё.

Калі ў перадсвітальным, вясновым, яшчэ золкім марыве з трэскам вылецелі ўваходныя дзверы яго хаты і першы спалох супаў з няўлоўным імгненнем абуджэння, Мазур зразумеў: яго сёння заб'юць. Пад звон бітага шкла ў хату, мацюкаючыся, убегла некалькі чалавек. Мазур спрасонку не мог разабраць іхніх твараў, толькі белыя каламутныя плямы, што вянчалі цёмныя сілуэты, нядобрымі, сабачымі галасамі патрабавалі яго. Гучна забожкала скрыпучым, старэчым голасам Аўдоцця, а ўслед за маці, агоўтаўшыся ад спалоху, загаласіла жонка. І гэты нарастальны жаночы плач дапоўнілі тры дзіцячыя, няроўныя па сіле галасы.

— Заткніцеся, сукі, — злосна загарланіў адзін з няпрошаных гасцей знаёмым Мазуру голасам.

Грымнуў стрэл, які заглушыў усё. Падслепаваты, афарбаваны ў кроў выбух падаўся нясцерпна яркім. Куля стукнула ў столь якраз над іхнім ложкам. Зверху пасыпалася нейкая пацяруха, што пахла потам і сажай. На секунду запанавала цішыня, і толькі рэха стрэлу працягвала балюча біцца ў кантужаных барабанных перапонках.

— Выходзь, морда паліцайская, што самлеў, як баба? — злосна прахрыпеў усё той жа знаёмы голас.

Мазур сядзеў на ложку, звесіўшы натомленыя хадой кашчавыя ногі ў кароткіх белых зрэбніках з развязанымі на ноч матузамі. Ён адчуваў, як спалох, народжаны стрэлам, разліваўся па целе, ператвараючыся ў гідкі, ліпкі страх. Нешта балюча стукнула па скуле, і ануча, якая пахне ягоным потам, накрыла галаву. Боль прагнаў страх; войкнуўшы, ён згроб з твару анучу — кінутыя кімсьці нагавіцы.

— Адзявайся, халуй нямецкі, і выходзь з хаты.

Мазур, не вымавіўшы ні слова, нацягнуў штаны. Выняў з кішэні і чамусьці беражліва паклаў на падушку асялок, які забыў учора ў кішэні. «Добра, што вока не выбіў, зараза», — падумаў ён, устаючы на слабыя ад страху ногі. Бабы і дзеці загаласілі з новай сілай.

Боты яму нацягнуць не далі, а перад выхадам з хаты сунулі ў рукі паношаны чорны драпавы пінжак, які, як яму падавалася, усё яшчэ захоўваў смачныя гарадскія пахі. Пінжак гэты ён атрымаў гады два назад у райцэнтры разам з вінтоўкай і белай павязкай, на якой чорнай трывалай фарбай была напісаная літара «Р». Да ўсёй гэтай амуніцыі прыкладалася папера, якая на беларускай і нямецкай мовах паведамляла, што падавец гэтага, Мазур Ігнат Харытонавіч, з'яўляецца паліцыянтам вёскі Замосце і знаходзіцца на службе акупацыйных уладаў. Паперу ён бярог, загорнутая ў чыстае тонкае радно, яна ляжала ва ўнутранай кішэні пінжака, які Ігнат паспешліва апранаў, а ў спіну падпіхвалі ўжо прыкладамі вінтовак. Ззаду ў пяць галасоў выла ягоная сям'я.

У двары ўздоўж плота стаялі чалавек дзесяць незнаёмых мужыкоў. Апранутыя па-рознаму, зарослыя, з размаітай зброяй, яны панура і абыякава глядзелі на Мазура. Збоку ад варот на вялікай дубовай калодзе, дзе калолі дровы, сядзеў чалавек з худым, чыста выгаленым тварам, у чорнай каракулевай кубанцы з чырвонай салдацкай зоркай. Па-над зелянковага колеру нямецкім фрэнчам на ім была аўчыная, фарбаваная цыбуляй камізэлька. Цёмна-сінія галіфэ з малінавым кантам, запраўленыя ў высокія хромавыя боты карычневага колеру, завяршалі ягоны незвычайны гардэроб. Ні камандзіра, ні партызанаў Мазур не ведаў.

«Можа, якія нетутэйшыя», — мільганула думка.

— Таварыш камандзір, вось гэты паліцай, ён заўчора ездзіў у мястэчка і даклаў, гад, пра вашых хлопцаў. Ну, пра тых ля моста, якіх немцы пастралялі.

Мазуру стала крыўдна. Ён ні да якіх немцаў ніколі не ездзіў, ні пра якіх партызанаў ля моста да ўчарашняга вечара не ведаў. Адэлькін кум, прыехаўшы з чыгуначнага раз'езду, распавёў вясковым аб тым, што мінулай ноччу партызаны замініравалі Чарняўскі мост і сядзелі ў засадзе, чакаючы вайсковы цягнік. Сядзець, відаць, было сумна, хтосьці збегаў у Чарнаўцы і прывалок бутлю самагонкі. Хлопцы на галодны страўнік напіліся і, убачыўшы нямецкую мотадрызіну, паспрабавалі падарваць міну, якая, пэўна, адсырэла або яшчэ з якіх прычынаў не выбухнула. Тады Мікола, сын Ягора Кныша з Чарналесся, у сцельку п'яны, выскачыў з кустоў і стрэльнуў з вінтоўкі ў дрызіну. Немцы спынілі сваю тэхніку, а было іх чалавек дваццаць, пасаскоквалі на зямлю і перабілі партызан. Міколу, які, спатыкнуўшыся, сам скаціўся да насыпу і заснуў, скруцілі і павезлі з сабою. Мост, вядома, размініравалі і паставілі вартавых. Толькі ж партызаны тыя былі ўсе тутэйшыя, з атрада Міхася Карпавіча Затонскага, якога ўсе ў акрузе ведалі.

— Нікуды я ня ездзіў, — злосна адгыркнуўся Мазур і тут жа атрымаў па мордзе.

— А ў цябе, халуйскае мурло, ніхто і не пытае!

Мазур засоп, выціраючы разбітыя вусны. Толькі цяпер да яго дайшло, што знаёмы голас належыць Шарапку — Івану Шарапчуку, былому калгаснаму рахункаводу. Івана акурат перад самай вайной забралі ў Чырвонае войска. У Замосці ён аб'явіўся зімой сорак першага года, якраз перад шляхецкімі Калядамі. Хадзіў па вёсцы ціхім, нейкім прыстукнутым. Трохі адлежаўшыся і паправіўшыся, Шарапка пачаў часцяком наведвацца ў мястэчка, а на масленіцу заявіўся ў вёску разам з немцамі, якія праз перакладніка паведамілі, што з сённяшняга дня Іван Шарапчук прызначаны старшым паліцаем іхняга паселішча і з'яўляецца паўнапраўным прадстаўніком новага парадку. Немцы прабылі ў вёсцы да абеду, трохі парабавалі і з'ехалі. Іван застаўся адзін. Дні праз два на фурманцы ў Замосце прыехалі яшчэ тры паліцаі. Людзі гэтыя былі нетутэйшыя і ў большасці сваёй п'янствавалі ў мясцовай школе, а начамі гвалцілі настаўніцу, якая, як гавораць злыя языкі, была мяшанкай і маўчала, баючыся за сябе і дваіх дзетак. Мужыка ў вучыцелькі не было, а ў вёску яе прывёз летам трыццаць дзявятага старшыня райвыканкама Іван Васілевіч Парэйка. На сёмае лістапада ў сорак другім годзе яго павесілі ў райцэнтры на вялікай старой ліпе разам з пяццю актывістамі падпольнага райкама партыі. Людзі пагаворвалі, што выдаў іх немцам Шарапка. І вось цяпер ён, той самы Шарапка, які ўгаворваў Мазура запісацца ў паліцаі, які патрабаваў ад яго паведамляць аб усім, што дзеялася на іх канцы вёскі, гэты самы Шарапка стаяў на ягоным двары, апрануты ў доўгі чырвонаармейскі шынэль, з наганам у руцэ — і вінаваціў Ігната ў нейкіх несусветных грахах. Усё Замосце ведала, што Ігнат, якога Мазурам усе з дзяцінства і звалі, не мог пакрыўдзіць не толькі чалавека, — але й скаціну, а бывала, спыняў калёсы і чакаў, пакуль дарогу перапаўзе шустры вуж або перабяжыць клапатлівы вожык.

— Мазур у нас божае бя, — здзекаваліся з яго мужыкі ды аднагодкі, калі ён, пачырванеўшы, моўчкі ўставаў і сыходзіў, не жадаючы слухаць іх п'янага пахабнага выхвалення. Ягоныя аднагодкі ўжо на ўсю моцу жаніхаліся, а на Купаллі такое вытваралі з дзеўкамі ў Багданавым урочышчы, што і сказаць сорамна, а Мазур усё яшчэ хадзіў нецалованым.

Гадоў у пятнаццаць ён закахаўся ў Маню Аляхновіч і ўпотай сохнуў па ёй. Трэба адзначыць, што і Аляхновічыха таксама была яшчэ той цацай, з'едлівай ды непрыступнай, са шляхецкім гонарам. Хто толькі не падбіваў да яе клінні — усім ад варот паварот. Так што недалюблівалі яе і дзеўкі, і хлопцы. Лета перад вяселлем Мазуру мінуў ужо дзевятнаццаты год, заахвоціўся ён па вечарах хадзіць на Галагаеў хутар. Прысунецца асцярожна, каб стары Галагай, Манін дзед, не заўважыў, сядзе на схаваную ў кустах бэзу лаўку і з нудой гадзінамі глядзіць на падслепаватыя вокны соннай хаты. Там, за вышытымі фіранкамі, спакойна і нічога не ведаючы, спала яго адзінае зямное каханне. Чаго толькі ён не выдумляў: то вось бы хата загарэлася, а тут ён і ратуе з агню яе і ўсю радзіну; або ў цёмную і абавязкова дажджлівую ноч нападаюць на Аляхновічаў бандыты, ну і, натуральна, ён усіх пераб'е і заслужыць ейнае каханне. Потым гэтыя летуценні падаваліся яму дурасцю і дзяцінствам, а пакуль ён сядзеў у сваёй засадзе і ледзьве стрымліваў слёзы крыўды і безвыходнасці. Яму было шкада сябе. Здаровы хлапец, у руках якога спорылася любая праца, ён быў аб'ектам уздыхання многіх вакольных дзяўчат. Праўда, з пісьменнасцю ў яго былі нелады. Ды й як ім было не быць, калі бацька, даведаўшыся, што савецкая ўлада забараніла Закон Божы, забраў яго са школы са словамі: «Чытаць, пісаць крыху, сыночак, умееш, і досыць! Працаваць трэба». Але ўсё гэта было даўно, а цяпер ён сядзеў як пень у бэзе і пакутаваў. Раптам Мазур здранцвеў ад нечаканасці, ззаду асцярожныя і далікатныя далоні кранулі ягоны твар. Не паварочваючыся, ён згроб гэтыя тонкія, прахалодныя, пахкія летняй травой пальцы і прытуліўся да іх вуснамі.

— Ну чаго ты, дурненькі, томішся сам і мяне ўжо які год сушыш? — далікатна гладзячы яго па галаве, спытала Маня, апускаючыся побач з ім на лаўку.




Фота nashkraj.info

Заканчэнне на стар. 7 »

# Мазур

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6



Яны доўга, да болю ў вуснах, цалаваліся. Свет кружыўся, а два сэрцы біліся, як дзве буйныя рыбіны на плыткаводдзі.

Ночы ляцелі, як хвіліны. Надыхаўшыся саладосцю дзявоцкіх вуснаў, Мазур днём араў як двухжыльны. Тады жывы яшчэ бацька, па-добраму гледзячы на сына, імкнуўся ў абедзенную спёку, калі ўсё ў акрузе замірала і паветра ператваралася ў ліпкі цягкі нектар з горкім дамешкам прычаўрэлай травы, даўжэй яго не будзіць.

Аднойчы яны сушылі сена на сваёй дзялянцы ля Кацерлавага віру. Ігнат, з цяжкасцю выбраўшыся з пасляабедзеннага сну, кінуўся да выратавальнай рэчкі. Скінуўшы штаны, ён моцна адштурхнуўся ад пяшчанага берага і нырнуў у празрыстую прахалодную ваду. Ужо ўсплываючы, размружыў павекі. Злёгку зеленкаваты падводны свет з мільярдамі маленечкіх паветраных бурбалак, таямнічыя водарасці, якія паднімаюцца з цёмнай глыбіні і хіляцца ўбок плыні, пранырлівыя печкуры на жоўтым пяску — усё гэта адкрылася ягонаму позірку. «Чаму людзі не ўмеюць жыць пад вадой?» — падумаў Мазур і падняў галаву насустрач надыходзячаму сонцу. Прама перад ім хутка рухаліся ўверх-уніз доўгія дзявочыя ногі, акружаныя асляпляльнымі бурбалкамі, праплывалі белыя з карычневымі плямамі саскоў грудзі, падцягнуты жывот, прыгожыя загарэлыя рукі.

Ігнат ад здзіўлення і нечаканасці ледзь не захлынуўся. Ён коркам выскачыў з вады: перад ім на водмелі, закрываючы левай рукой грудзі, а правай — ніз жывата, стаяла спалоханая Марыя. Пазнаўшы Мазура, яна піскнула і, павярнуўшыся да яго спіной, пабегла да берага. Ігнат, стаўшы на водмелі, як зачараваны глядзеў ёй услед. Маня няспешна адціснула валасы, апранула на мокрае цела сарафан і павярнулася да яго. Іх падзялялі метры з тры неглыбокай, прагрэтай сонцам вады. Гарэзная ўсмешка павольна спаўзла з твару маладзіцы, вочы напоўніліся цікаўнасцю, змяшанай з сорамам і яшчэ нейкім пакуль не вядомым, але вельмі трапяткім пачуццём.

Ігнат перахапіў гэты погляд, апусціў уніз вочы і, убачыўшы сваю паўсталую мужчынскую годнасць, з дзікім стогнам кінуўся назад у ваду.

Наступная ноч стала першай і паклала пачатак адліку іх агульнага жыцця. Ужо пасля вяселля і пасля нараджэння траіх дзяцей ды зачацця чацвёртага зноў і зноў ён успамінаў той першы салодкі чароўны туман...

Адкінуўшы здранцвенне, Мазур памкнуўся да камандзіра:

— Таварыш начальнік, дык гэта ж Шарапка і ўгаварыў мяне пайсці ў паліцаі, ён жа сам старшы паліцай у нашай дзярэўні. Вы, таварыш, спытайце ў любога, вам усі скажуць. Ну які я паліцай? Так, адзін выгляд, я ж і партызанам дапамагаю. У мяне там пад печкай і паперкі ёсць, — раптам Мазур асёкся і замоўк. — «Загубіў ты сябе, дурань! Не партызаны яны...»

— Што ж ты, здраднік, замоўк? — з'едліва ўсміхаючыся, спытаў камандзір.

«Не, не партызаны», — глуха забілася ў Мазура ў скронях кроў.

— Сыч, давай-ка, памацай у яго пад печчу, — цяпер ужо па-расійску гучна крыкнуў камандзір.

«А халера іх тут разбярэш»... — падумаў Ігнат і атрымаў удар пад дых.

Мазура білі нагамі. Ён не крычаў, толькі выгінаўся, як вуж, спрабуючы закрыць то твар, то ніз жывата, але хутка, атупеўшы ад болю, скурчыўся і скамянеў.

Сонца ўжо ўстала. Вакол Мазуравага двара сабраліся суседзі. Бабы напаўголасу плакалі, мужыкоў амаль не было, а тыя, хто прыйшоў, стаялі ўдалечыні, моўчкі палілі, сплёўваючы сабе пад ногі. Відаць, ні ў кога не было жадання ўмешвацца ў чужую бяду, ды і што б дало тое ўмяшанне, акрамя новай бяды.

— Вось, гаспа... таварыш камандзір, у падпечы, у самым куту знайшоў, — абарваўшыся было на паўслове, атрасаючы са штаноў пыл, дагодліва забалбатаў сярэдніх гадоў мужчынка ў куртатай целагрэйцы. — Паглядзіце, тут і грошы ёсць, і паперкі нейкія.

— Дай сюды, прыдурак, — злосна гыркнуў на падначаленага чалавек, які сядзеў на калодзе, і з сілай тузануў з брудных рук круглую бляшаную скрынку з-пад ледзяшоў. Не гледзячы на змесціва, начальнік няспешна засунуў яе ў кішэню камізэлькі і абыякава кінуў:

— Хопіць з яго, і так ужо відаць, што бандыт, і нашым і вашым, сабака, умудраўся служыць. Дзе яго зброя?

Вінтоўку шукалі па ўсёй вёсцы. Тыдні тры назад Мазур аддаў яе Трафіму, які збіраўся схадзіць на паляванне, а той, у сваю чаргу, пакінуў зброю Мазураваму цесцю. Дзед агоўтаў поруч з лесам агарод, пасадзіў бульбачку і цяпер начамі вартаваў, каб дзікія кабаны не з'елі ягоны ўраджай.

Прынеслі старэнькую трохлінейку і дзве абоймы з патронамі. Няўчаснага паднялі з зямлі, паставілі на калені і доўга нешта крычалі аб здрадзе Радзіме.

Галава гула, Мазур слаба разумеў сэнс істэрычнага ляманту начальніка партызанаў ці хрэн яго ведае каго. Ігнат ведаў, што ніколі не меў ніякай справы ні да якой Радзімы, як і гэтая самая Радзіма ніколі нічога не давала ні яму, ні яго сям'і. У палітыцы ён не разбіраўся, у войску не служыў, з вёскі не выязджаў ні разу, жыў сваім розумам, араў сабе зямлю, сеяў хлеб, гадаваў дзяцей, як умеў, кахаў Маню, на чужое не квапіўся, у Бога не тое, каб не верыў, а так, ведаў, што Ён ёсць, і асабліва імкнуўся не дакучаць сваімі просьбамі або скаргамі, ну хіба калі ўжо зусім дапячэ. У паліцаі пайшоў ні па Шарапкіных угаворах, хоць і яны таксама былі. Неяк увосень, яшчэ на пачатку вайны, ноччу ў яго хату зайшлі трое. У адным ён прызнаў Івана Васілевіча Парэйку, далёкая радзіна якога жыла ў вёсцы. У юныя гады будучы валасным начальнікам, спрабаваў беспаспяхова заляцацца да Мані. Можа, мінулыя пачуцці, а можа, восеньскі дождж, але нешта прывяло яго са спадарожнікамі да Мазура. Хутка накрылі на стол. Ігнат выставіў паўтаралітровую бутэльку самагонкі. Пасядзелі, пагаварылі. Ужо сыходзячы, Іван Васілевіч адазваў гаспадара ўбок і папрасіў дапамагчы ягоным людзям. «Дарэмна табой рызыкаваць не будзем, вунь колькі на лавах сядзяць. Галоўнае, маўчы аб нашай дамоўленасці, ты ж у нас аднаасобнік, гэта цяпер і добра. Нібыта як і з савецкай уладай не згодным быў, так што дапамагай свайму народу. Прыйдзе час, усё залічыцца».

Людзі з лесу прыходзілі сапраўды нячаста. Калі Шарапка прыстаў, як мокры ліст, са сваім паліцайствам, Ігнат папрасіў у Івана Васілевіча парады. Разам вырашылі, што так будзе нават бяспечней. І ўсё б добра, але з сорак трэцяга, калі супраціў народных мсціўцаў адужэў і ў вёску пачалі заходзіць партызаны з іншых атрадаў, Мазуру стала цяжка. Парэйка загінуў, ды і цяжка было нешта растлумачыць чужым, часцяком не зусім цвярозым, узлаваным людзям. Партызаны ж былі рознымі, некаторыя, заскочыўшы ў хату, перш за ўсё пачыналі трыбушыць куфары, патрабавалі сала, самагонкі і цягнуць маладух у адрыны. Мазур ад партызанаў не хаваўся, аднавяскоўцы — у многіх сваякі былі ў лясах — пра ягонае паліцайства маўчалі. Шарапка, мабыць, чуючы, што за Парэйку з ім разбяруцца, збег у мястэчка. Немцы ў іхняй глухамані ўжо з год не з'яўляліся, так што жылі яны з Маняй, можна сказаць, спакойна. Ігнат, праўда, моцна хваляваўся, калі хто-небудзь з залётных, добра перакусіўшы, прымушаў стрыножыць авечку або зводзіў з двара цёлку. Тыдзень ён хадзіў нелюдзімым, цяжка ўздыхаў, аб чымсьці сам з сабою размаўляў, падоўгу таптаўся ў хляве, як раззлаваны кот, пырхаў на Маню, тая паблажліва ўсміхалася: «Ты вось пачакай, саветы вернуцца, наогул скаціну забяруць, і застанемся мы з аднымі курамі. Кінь ты ўсё і ня рві сабе душу, дурань ты мой, дурань».

Жонка была ўжо на восьмым месяцы, і Мазур, паўздыхаўшы яшчэ дзеля парадку, падсаджваўся да яе і прыкладваў сваю, ужо сіваватую, галаву да вялікага, налітага жывата. Ён уважліва ўслухваўся ў дзіўныя ціхія гукі, якія жывуць усярэдзіне Мані. Ён чакаў з нечалавечай, звярынай ласкай, калі адтуль, з глыбіні яго каханай жанчыны хтосьці яшчэ нябачны і незнаёмы асцярожна пхне яго ў няголеную шчаку. Па гэтых таямнічых штуршках ён спрабаваў адгадаць, хто, прызнаўшы ў ім свайго, хутка з'явіцца на свет.

У Мазура было двое сыноў і дачка, цяпер, у адрозненне ад Мані, ён чакаў дзяўчынку. Яна яму нават снілася, такой жа прыгожай і таямнічай, як яе маці ў той летняй і шчаслівай рацэ...

Стоячы на каленях, Мазур бачыў толькі карычневыя боты партызанскага камандзіра. Каля левага падратага носа дыміўся недакурак прытарнай нямецкай цыгарэты. Шызы дымок, плоскай вузкай стужкай выгінаючыся, як змяя, цягнуўся ўверх, раздвойваўся і, павольна вібруючы, раставаў у цёплым паветры набіраючага сілу дня.

Стрэлу Мазур не чуў, толькі неяк па-дзіцячы войкнуў і ўзняў да высокага бясхмарнага неба поўныя слёзаў і здзіўлення вочы.

Спалоханыя стрэлам буслы зняліся з вялікага кола, якое Мазур з сынамі перад Вялікаднем прымайстраваў на бярозе, і закруціліся над асірацелай хатай...

Мазур ускочыў з ложка, астаткі немарасцевага сна яшчэ луналі ў сонным паветры іх гарадской кватэры. «Чартаўня нейкая», — падумаў ён, асцярожна косячыся на Рыту, якая мірна сапела побач, — нібыта гэты дзіўны сон мог абудзіць і напалохаць яго цяжарную жонку.

Ігнат, якога так назвалі ў гонар дзеда, забітага пераапранутымі ў партызанаў паліцаямі, пацягнуўся, каб выключыць начнік. Раптам на вялізным Рыціным жываце нарадзіўся маленечкі грудок, адтапырваючы тонкую тканіну начной кашулі, ён зрабіў паўкола і зацих, спыніўшыся ля самай вяршыні. Хтосьці новы, незнаёмы, але ўжо да болю любімы, прызнаючы ў ім свайго, спрабаваў нешта сказаць Мазуру.

Памяць часта падносіць нам дзіўныя неспадзеўкі. За вакном у перадсвітальным, вясновым, яшчэ золкім марыве нараджаўся новы дзень. Высока над горадам ляцелі буслы — вялікія моцныя птушкі, якія, па народным мудрым разуменні, са старажытных часоў прыносяць у нашыя дамы шчасце. Хто ад каго залежыць у гэтым свеце — мы ад птушак ці птушкі ад нас? І хто ведае, дзе заканчваецца сон ды пачынаецца ява і куды разам з намі цячэ няўлоўны час?

# Бажанне



Валеры ДУБОЎСКІ

*Кампазіцыя*
*Нумар адзін —*
*Ты.*
*Сыграная Панам Богам.*

(Вершы з аднаіменнай кнігі, здадзенай у друк. Пісаліся многія гады — як прысвячэнні жонцы Але — Аліне, Алёнцы. Пісаліся пры жыцці і пішуцца пасля яе адыходу.)

***ВД.***

### Раўную

*Засею поле зноў*
*чаканнем вёснаў,*
*каб дзень прарос*
*і дужы, й ранні.*
*Жыццё — імя*
*майму жаданню.*
*Руйную поле*
*і раўную да нябёсаў.*

*Ва ўзвышанай*
*над побытам мальбе,*
*бы птахам агнявым,*
*над полем узляцеўшы,*
*няхай і шараговы,*
*і няхай не першы,*
*руйную неба*
*і раўную да цябе.*

### Жанчына

*Яшчэ не падумаў,*
*а ты смяешся.*

*Яшчэ не сказаў,*
*а ты крыўдуеш.*

*Яшчэ не зрабіў,*
*а ты адгукнулася.*

*Яшчэ не пайшоў,*
*а ты са слязінай.*

### Бажанне

*Ноч — поўнявокая.*
*Песня — поўнагалосая.*
*Такімі чароўнымі вёснамі*
*душа такая высокая.*

*Сакавіком ці вераснем,*
*трымае адно — бажанне.*
*Любоўю любоў прымнажаем.*
*Мы — далюбіць —*
*не вернемся.*

### Парукаліся

*Між краем келіха*
*і вуснамі тваімі*
*знайшоўся,*
*разгубіўся*
*і — згубіўся...*
*Мы душы нашыя*
*пажадна наталілі*
*і парукаліся,*
*захопленыя выссю.*

### Гляджу

*У вочы твае глядзець —*
*бачыць мрою.*
*Гляджу.*

*У вочы дзяцей глядзець —*
*бачыць тутсамасць.*
*Гляджу.*

*У вочы ўнукаў глядзець —*
*бачыць наступнасць.*
*Гляджу.*

*У вочы сусвету глядзець —*
*бачыць бясконцасць.*
*Гляджу.*

### Апостраф

*У цяперашнім*
*прызнанні маім у каханні —*
*адзін нечаканы*
*знак.*

*Апостраф маладзіка.*

*І аніякіх*
*знакаў прыпынку.*

### Сумуе букет

*Патухла вакно.*
*Горад аціх, празмерны.*
*Прадчуваннем завалакло*
*ноч.*
*Зоркі просяцца ў дзверы.*

*На горада плечы*
*палеглі паснула крыжы.*
*Рукі грэеш ля свечкі.*
*Сагрэй мяне,*
*каб ажыў.*

*Сумуе букет*
*без усмешак і рук*
*тваіх.*
*Рыфмуе паэт.*
*Музыка грае на слых.*

### Успамін

*Натхняюць з раніцы*
*вітальныя званы*
*трох цэркваў,*
*адзінотнага касцёлу.*
*І крок, і бег —*
*чарговы, прызывы —*
*не згасам,*
*кветнем дыхаюць вясёлым.*

*Хвалюе хваля Свіслачы-ракі.*
*І дых глыбей:*
*бягу, не чэзну!*
*За паваротам завярну —*
*і напрасткі.*
*Да ценю*
*нашага купалаўскага бэзу...*

### Усцешыла

*Зазірнуў да цябе —*
*даверыцца,*
*а тваё зачынена*
*сэрца.*

*Зайшоў знарок —*
*развітацца,*
*а ты запрашаеш*
*да танца.*

*Усцешыла —*
*вушы развесіў:*
*«Давай заспяваем*
*Песню».*

*Удваіх пастаім*
*на масточку.*
*«Ты хочаш сына*
*ці дочку?»*



Фота bloknot.com

### Спроба

*І гэта пройдзе ўсё...*
*хаця...*

*Каханне —*
*спроба несмяротнасці*
*праз адчуванне*
*забыцця.*

### Хвалі Мінскага мора

*Цябе прабівае*
*нераспазнаным рытмам.*
*Мяне прабівае*
*яшчэ невядомай рыфмай.*
*І горы наўкола і мора,*
*хоць мы*
*на беларускай раўніне.*
*І голас твой ціхі, дапытлівы,*
*крыху раўнівы.*

*Шалёныя краскі,*
*ад іх я натхнёна шалёны.*
*Малюю цябе —*
*ты хваля, ты мора, Алёна.*
*А рыфма збіваецца,*
*рыфма чамусьці не йдзе.*
*Як ты, уцякае,*
*беражком — ты,*
*яна — па вадзе.*

*Юнацкія чуцці,*
*неклапатлівыя мройныя хвалі.*
*Мы й сёння кахаем,*
*як у юнацтве кахалі.*
*Кудысьці плылі, ляцелі,*
*узрасталі ў часе...*
*І сёння ляцім.*
*І пішацца рыфма.*
*І рытм захоўны застаўся.*

### Дзьмушка

*Адна пушынка*
*з кветy дзьмухаўца,*
*ў жыцці маім*
*ты — срэбраная дзьмушка.*
*Палёту лёгкага*
*ніхто не абяцаў.*

*Ўсхацелі лёту —*
*лёс прыязна гушкаў.*

*Каханне — мара й дзея*
*без канца,*
*нябёсным князем*
*нашаптана ў вушка.*
*Ад першага*
*да вышняга вянца*
*кахаў цябе я,*
*і цвяліў...*
*І гушкаў.*

***

*Жанчынай каханай —*
*як вершамі —*
*найлепей*
*бываеш усцешаны.*

### Рэха дажджу

*Памяць нашую патрывож.*
*Ты такая была маладая.*
*Мы праходзім з табой*
*праз дождж...*
*То ўзнікаем...*
*То прападаем...*

*Для цябе і цяпер —*
*словы і сэрца.*
*Зноў табе і дажджу дагаджу.*
*Сэрца маё*
*табе застаецца.*
*Мне — рэха дажджу.*

***

*О жанчына!*
*Нябёсаў чало,*
*неспасцігнутасцю незямною*
*зачараваны я.*
*Ад чаго*
*ты і побач*
*і ты — нада мною.*

*Найдзівоснае дзіва з дзіў!*
*Ад цябе —*
*ніякіх засцярогаў.*
*Кампазіцыя*
*нумар адзін —*
*ты.*
*Сыграная Панам Богам.*

# «Заходнебеларуская хроніка» Кастуся Акулы

Алесь АКУЛІЧ

Большасць чытачоў і літаразнаўцаў ведае гэтага пісьменніка як аўтара рамана «Змагарныя дарогі». Аднак у беларускай эміграцыйнай прозе адметнае месца займае і цыкл яго аповесцяў «Дзярлівая птушка» (1965), «Закрываўленае сонца» (1974) і «Беларусы, вас чакае зямля» (1981), якія складаюць трылогію «Гараватка».

«Гараватка» Кастуся Акулы (псеўданім, сапраўдныя імя-прозвішча — Аляксандр Качан) — панарамнае эпічнае палатно, адметнае сваім маштабным спасціжэннем народнага побыту, псіхалогіі, вывучэннем і адлюстраваннем фундаментальных катэгорый беларускай нацыянальнай ментальнасці.

«Гараватка» — гэта шчырая і праўдзівая «Заходнебеларуская хроніка», якая ўзнаўляе лёсавызначальныя падзеі ў краіне ў 1920-я, 1930-я і пачатку 1940-х гадоў. Асобнымі старонкамі «Гараватка» падышла бліжэй і больш пранікнёна да асвятлення і разумення тагачасных грамадскіх і сацыяльна-палітычных зменаў, чым некаторыя вядомыя творы беларускай прозы, у тым ліку і прозы класічнай.

На лакальным прыкладзе роднай мясцовасці (вёскі паміж Докшыцамі і Глыбокім) Кастусь Акула (1925—2008) апісвае ў першай кнізе трылогіі панаванне польскай адміністрацыі, калі над часткай Беларусі залунала «дзярлівая птушка» — белы арол («Дзярлівая птушка»), у другой — савецкае «вызваленне», калі беларусы патрапілі пад яшчэ большы ўціск («Закрываўленае сонца»), у трэцяй — нямецкую акупацыю («Беларусы, вас чакае зямля»). Родны край для аўтара паўстае ў вобразе-сімвале бяздольнай *Гараваткі*, у якім зашыфроўваецца-скандэнсоўваецца лёс Бацькаўшчыны — лёс гаротніцы.

Галоўным дзейсным «жыхаром» Гараваткі стаў пракаветны дуб Архіп — алегарычны знак беларускай трываласці і нязломнасці, своеасаблівая ідэйна-эмацыянальная «вось» трылогіі. Дуб Архіп, аб які *«разбіваліся вятры і непагадзі цэлых стагоддзяў»*, які *«помніў Баторага й Івана Грознага»*, — галоўны арыенцір не толькі ў пейзажных апісаннях «Гараваткі», але і ў сюжэтным дзеянні. Гэта пад ягонай кронай дзед Якуб расказвае пастушку Януку Бахмачу легенду пра князя Гаравіка і ягоных сыноў: *«Пагараваў ён тутака многа <…>. Можа гэта ад таго й пачалі людзі гэта месца Гараваткай называць»*. Янук Бахмач на працягу Акулавай трылогіі праходзіць паказальны жыццёвы шлях ад асадніцкага пастушка (кніга «Дзярлівая птушка») да нацыянальна-свядомага беларуса, патрыёта-грамадзяніна (кніга «Беларусы, вас чакае зямля»).

Часткі трылогіі Кастуся Акулы кампазіцыйна закончаныя, «аўтаномныя». Аўтар па-майстэрску сплятае ў адно ўсе сюжэтныя хады і лініі, праз што «Гараватка» становіцца творам займальным, вострасюжэтным. Гэта адзначалі і даследчыкі трылогіі. «Гараватка Кастуся Акулы — вострасюжэтная, псіхалагічна верагодная, праўдападобная ў быційна-сітуацыйных калізіях», — пісаў Ян Чыквін. «…трылогія Кастуся Акулы «Гараватка» можа стаць самай чытэльнай кнігай на Беларусі сярод свядомых адраджэнцаў, якія помняць балючыя старонкі сваёй гісторыі», — запэўніваў Мікалай Мішчанчук.


Кастусь Акула. 1990-я гг.

Найбольш уражвае з усёй «Гараваткі» яе другая кніга. «Закрываўленае сонца» бачыцца і сюжэтным, і пафасным «пераваламам» «Заходнебеларускай хронікі» Кастуся Акулы, яе падзейнай і ідэйна-мастацкай кульмінацыяй. Пятлёй пачынаецца кніга і пятлёй заканчваецца: у другім раздзеле ў пятлі гіне Параска Макатунішка, пакінутая мясцовымі «актывістамі» на расправу польскім жаўнерам; у прадапошнім раздзеле (своеасаблівая сюжэтна-кампазіцыйная «люстэркавая» сіметрыя) у пятлі ад лёсавай безвыходнасці гіне селянін-працаўнік Сявенька-Амерыканец.


Кастусь Акула (злева) каля друкарскага варштата. Таронта (Канада). 1970-я гг.

Не зважаючы на тое, што, па сутнасці, аповед вядзецца пра ўжо вядомыя факты — уз'яднанне Заходняй Беларусі з Савецкай, калектывізацыю, празаік займальна выбудоўвае падзейны ход кнігі, канцэнтруе яго. У вёску Літоўцы прыходзяць «чырвоныя», пасля туману агітацыі пачынаюцца арышты спачатку паноў (батракі разбіраюць іхны набытак), а затым вагонамі ў Сібір вывозяць і іншых «ворагаў народа». Раз'агітаваныя на сходзе вяскоўкі збіраюць падарункі Сталіну і ўсім членам палітбюро, каб аддзячыць за «вызваленне з-пад польскага іга», — а ўсё заканчваецца разборкай у мясцовым «ынкавэдэ». У вёсцы запанавалі «камуністы» Косцік Бурак-Сабакевіч, Лявон Шпунт, Хвёдар Паваліцкі ды ім падобныя: п'яніцы, гультаі, злодзеі, хціўцы, якія здолелі ўвайсці ў давер да савецкай улады. У крамах знікае ўсё, што і было. Сялянам спачатку даюць зямлю. Эпізод яе падзелу выпісаны надзвычай каларытна. Засяванне Пракопам Бахмачом свайго надзелу атрымалася па-мастацку відочным. Разам з апісаннем касьбы Васіля Дзятліка ў «Палескай хроніцы» Івана Мележа гэта лепшыя празаічныя карціны сялянскай працы не як адно неабходнай павіннасці, а як узвышанага дзейства: *«Павольна і ўрачыста ступаў па чорнай ральлі Янукоў бацька, буйнае, пазычанае ў Сявенькі зерне жменяй рассыпаў. І крок памяркоўны, і рукі́ размах налева й направа, і сама постаць цяпер выпрастаная, і гаспадарлівыя вочы, здавалася, за кожным зярняткам сачылі. Гэтак сейбіт Пракоп, спадзяваньнямі на лепшае перапоўнены, ажыў, уздужэў і, быццам вясна навокал, сокамі налiваўся…»*. Але ні Пракопу, ні ягоным аднавяскоўцам папрацаваць на сваёй зямлі доўга не давядзецца: абклаўшы непамернымі падаткамі, сялян пачынаюць сілай заганяць у калгас.

У зменным лёсавым кругавароце даводзіцца сталець і спасцігаць жыццёвую навуку Януку Бахмачу. Псіхалагічна заглыблена і дэталёва ўгрунтавана выпісана гісторыя кахання Янука і Дуні Макатунішкі. З сімвалічнай падсветкай бачыцца фінал «Закрываўленага сонца»: маладыя мілуюцца ў лесе на паляне пад кукаванне зязюлі, якое добрага Януку не прадвяшчала. Пра тое яскрава гаворыць апошні сказ кнігі: хлопец трызніць, што ягоны воз, гружаны каменнем, — як алегорыя краіны, — аніяк не можа ўзабрацца на ўзвышша. У вобразе Янука Бахмача, вясковага юнака з вялікай сялянскай сям'і з вёскі Верацеі (назва роднай вёскі Кастуся Акулы!), ажывала, без сумнення, бачанае самім пісьменнікам, увасабляліся нюансы аўтарскага светабачання, ягоны свет пачуццяў, думак і памкненняў.

Стылістычны прынцып «Гараваткі» — не апавядальна-рэалістычны, як у Мележаўскай «Палескай хроніцы», а з элементамі народнасказавай манеры. Сказавасць праяўляецца і ў лексічным пласце Акулавай эпапеі, і ў яе сінтаксічнай арганізацыі — з пастаноўкай дзеяслова-выказніка на апошняе месца ў сказе: *«Нават учора, калі загад канчаткова з нары вылазіць прыйшоў, браму прывітальную для «доблiснай» майстраваць, дык і то асьмеліцца паказацца на сьвет божы боязна было. Дзіва што! Гэтак сполаху нагналі — па начох адно з нары вылазіў (Косцік Сабакевіч), — што за вуглом кожнага будынку, здавалася, тайны шпігун яго цікаваў»*.

Для «хронікі» Кастуся Акулы характэрны іранічныя мясціны, якія выпісваюцца з павевам публіцыстычнасці. Метафарычнымі, па-мастацку ёмістымі атрымліваюцца ў трылогіі своеасаблівыя падагульненні. Вось як, да прыкладу, пададзены аўтарскі «каментар» да вядомых падзей верасня 1939 года: *«У спакойныя, драмлівыя літоўскія начоўкі прыплыла магутная чужая хваля. Доўгія гады зага́чаная на недалёкай мяжы, рушыла яна вялікай сілай на дарогі і гасьцінцы, калаціла нетрамі Зямлі, хваляваньнем поўніла простыя сялянскія сэрцы й трывогай азмрочыла будучыню польскіх чужынцаў»*.

Псіхалагічна бездакорна выпісаны асноўныя героі «Гараваткі», іх унутраны стан, думкі, пачуцці. Кастусь Акула часта падае́ іх аб'ёмныя ўнутраныя маналогі — як своеасаблівыя самаілюстрацыі. Трапныя і дэталёвыя апісанні знешняга выгляду персанажаў «Гараваткі», хоць Кастусь Акула выявіўся найперш пісьменнікам *намінатыўнага*, ілюстрацыйнага складу, а не аналітычнага. *«Вялікім хваляваньнем ускалыхваліся пад прыгожай, вышытай блакітнымі васількамі, кужэльнай блюзкай тугія грудзі. Басаногая, у зялёнай спадніцы ў жоўтыя пасачкі, Ніна мела прыгожую, надта прапарцыянальную фігуру, круглы лагодны падбародак, поўныя ружовыя вусны, просты, ледзь з намёкам на курносасьць, нос, вялікія, прывабнага адценьня вочы, шырокія бровы й высакаваты, роўны лоб. Густыя, хвалістыя каштанавыя валосы нагадвалі ўяўную русалку* <…> *У вачох іскрыліся пажадальныя агенькі. Кожны празорлівы мужчына адразу спанатрыў бы, што гэту прывабную жанчыну адным можна было толькі спатоліць»*, — такое, да прыкладу, скрупулёзнае — з прыцягненнем рэгіянальнай лексікі — апісанне маладой жонкі Паўла Бурака.

Не зважаючы на тое, што, як прызнаваўся Кастусь Акула ў лісце да Яна Чыквіна, *«пры выданні сваіх кніг* <…> *трэба было абыйсьціся без рэдактара, бо пад рукой не было кваліфікаванага чалавека»*, «Гараватка» — дасканалы твор і ў стылістычным плане. Мова Кастуся Акулы багатая, адметная. Цяжка ўстрымацца, каб не пачаць выпісваць найбольш каларытныя словы, якія ўзбагацілі б і найбольш поўны акадэмічны «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы»: *адпсяюрыць, жывацець, згарусьціць, згірдзіцца, казеліць* (вочы), *лындаць, паўшабэлак, пярхікаць, спанатрыць, чарахнець, штыліць* і інш.


Кастусь Акула каля бацькоўскай хаты ў Верацеях, пачатак 1990-х гг.










Сваёй «заходнебеларускай хронікай» Кастусь Акула засведчыў глыбокае бачанне чалавечай натуры, разуменне — наогул — тых складнікаў, якія становяцца асновай нацыянальнага менталітэту, нацыянальнага характару, духоўных ідэалаў, народных стэрэатыпаў і архетыпаў, сістэмы сацыяльных і культурных каштоўнасцяў. Складзеная на аснове аўтабіяграфічнага матэрыялу, трылогія «Гараватка» змагла раскрыць найбольш супярэчлівыя і трагічныя старонкі «нядаўняга» мінулага Беларусі, змагла ўзвысіцца да эпічнай канцэптуальнасці, значных ідэйна-мастацкіх і экзістэнцыйных абагульненняў. Беларусь, калісь прадстаўленая нашымі пісьменнікамі XIX стагоддзя тужлівай Плачкай (Ян Баршчэўскі), і ў стагоддзі XX-м увасаблялася ў бесцэнзурнай эміграцкай літаратуры не рэгламентаванай і рэкламаванай у афіцыйных ідэалагічных выданнях «сястрой у вольнай шчаслівай сям'і», а (так і не здабыўшы чаканай нацыянальнай свабоды і дзяржаўнай незалежнасці) зноў толькі тужлівай Гараваткай…

# Іван Шамякін. «Ён такі ж, як і мы!..»

Алесь САЧАНКА

***Маё жыццё і мая прафесія журналіста падарылі нямала памятных, адметных сустрэч і зносін з людзьмі вядомымі, неардынарнымі, творчымі. Сярод іх — Іван Пятровіч Шамякін.***

## Знаёмства

У той дзень мая маці прыкметна хвалявалася. Некалькі разоў перачытвала кароценькае пісьмо Барыса, у якім ён скорапісам паведамляў, калі будзе на Гомельшчыне і з кім, магчыма, заедзе дадому (тэлефон у той час быў толькі ў калгаснай канторы ды на пошце).

— Ну хоць бы напісаў дакладна, калі прыедзе і на колькі дзён. Ды яшчэ з такім чалавекам! — раз-пораз паўтарала наша маці, прыбірала-мыла хату, упарадкоўвала рэчы, папраўляла на этажэрцы кнігі, пры гэтым паставіла сваю любімую — «Глыбокую плынь» — на верхнюю паліцу лазовай этажэркі...

Нарэшце яна звярнулася да мяне і крыху старэйшага Паўліка:

— Схадзіце да Пятра і Мані і скажыце, што сёння вечарам прыедзе Барыс з Мінску ды не адзін, а з Шамякіным!.. Няхай прыйдуць з дзецьмі, пабачацца, пагамоняць з такім чалавекам!..

...РАФік ціха падкаціў пад самую квортачку падвечар. З яго першым выйшаў брат Барыс, за ім сярэдніх гадоў мужчына ў вузкім капелюшы, нешта гаварыў Барысу. Да іх падышоў вадзіцель, аб нечым перамовіўся і стаў падаваць з РАФіка сакваяжы і сумкі.

Да іх прыспешылі мае старэйшыя браты: Коля, Пеця, Грыша, крыху воддаль стаялі нявесткі Клава, Маня, Соня...

Пазнаёміліся, пачалі гамонку, пасля гуртам пайшлі ў двор, адтуль — у хату...

А ў хаце — ужо накрыты стол! На ім было столькі прысмакаў! Маня прынесла свае выключнай смакаты налеснікі з творагам, Соня — марынаваныя белыя грыбкі, Клава — кумпячок, маці — «тушонікі па-велікаборску», яшчэ сала, салёныя агуркі, капусту, з чыгуна бабку, бярозавік...

Мы з Паўлікам заўважылі, што Шамякін такі ж, як і ў школьным падручніку па беларускай літаратуры. Значок дэпутата!

Вадзіцель Пеця аб нечым коратка пагаварыў з Іванам Пятровічам і Барысам, не прысеў нават за стол — паехаў хутчэй да сваіх бацькоў у суседні Рэчыцкі раён...

Як і водзіцца сярод велікаборцаў, людзей з дарогі трэба найперш накарміць. А накарміць жа было чым! Барыс раз-пораз частаваў-прапаноўваў паспытаць велікаборскія прысмакі Івану Шамякіну:

— Вось хвацкія грыбкі! А гэта бабка ды з печы, ды яшчэ са смятанай! Вельмі хвацкая!.. (Гэтае слова Барыс ужываў вельмі часта, калі трэба было прадставіць нешта новае, невядомае госцю.)

Тым часам ціхенька падкаціў «козлік» і завітаў старшыня нашага калгаса І. А. Рубан... І ўжо размова пайшла пра справы калгасныя. Іван Пятровіч запытаў пра ўраджай, заробкі, жыццё калгаснікаў, іх быт...

Я тады не на фота, а ў жыцці ўбачыў на пінжаку у Шамякіна значык дэпутата з выявай сцяга і надпісам «Вярхоўны Савет БССР».

Пад зацікаўленую гамонку дарослых мы з Паўлікам між тым заснулі...


Іван Шамякін.
Фота Уладзіміра Вітчанкі

На другі дзень, раніцай, наша хата зноў напоўнілася знаёмымі галасамі. Сняданак зацягнуўся да поўдня.

Памятаю, мой брат Пятро прыйшоў да нас яшчэ на досвітку. Адзін, без Мані. Прыйшоў забраць мяне да сябе, каб пабыў з яго дзецьмі, меншымі за мяне Барыском і Валяй, бо яму і Мані трэба ўпраўляцца на Семенчы (мясцовае ўрочышча) з атавай... Зноў цёпла вітаўся, гаварыў з гасцямі маці, частаваўся-снедаў з імі, дачакаўся прыезду на РАФіку цёзкі, дапамагаў пісьменнікам збірацца і ўладкоўвацца ў дарогу на Мінск, цёпла развітваўся.

І. П. Шамякін шчыра дзякаваў за такую цёплую сустрэчу ў Вялікім Боры. У яго быў лагодны настрой.

Госці паехалі, а мае старэйшыя браты, іх жонкі яшчэ раз селі за стол, частаваліся, у іх размове толькі і чулася:

— Такі просты чалавек! Ён такі ж, як і мы. А які гаваркі! І ўсё яму цікава, і пра ўсё дапытваецца, і гаворыць жа па-нашаму!..

## Прывітанне землякам

У 1977 годзе я прыйшоў з арміі і ўладкаваўся карэспандэнтам «Настаўніцкай газеты», галоўным рэдактарам якой працаваў І. П. Сіманоўскі. Якраз набліжалася адметная дата — 60-годдзе «Вялікага Кастрычніка». Усе рапартавалі, чым услаўляюць, што робяць, каб сустрэць вялікую дату.

А што ў асветнікаў? Якія ў іх поспехі і здабыткі?! Пра гэта і вырашылі расказаць у спецыяльным выпуску газеты. Вырашыць — вырашылі, а хто будзе яго рабіць і складаць план? Вядома: моладзь рэдакцыі! А моладзі — тры чалавекі: Алег Куліцкі, я ды практыкант-пяцікурснік журфака Мікалай Шляк.

Нікуды не дзенешся: трэба, дык трэба! Пачалі найперш падбіраць характэрны раён, дзе і можна, «як у кроплі вады», адлюстраваць дасягненні савецкіх настаўнікаў. Тут нам падказаў сам галоўны рэдактар: Добрушскі раён, які ён ведаў, дзе некалі нарадзіўся, вучыўся, працаваў...

А хто будзе пярэчыць галоўнаму рэдактару ды ў савецкі час?

Нам, траім, выдалі камандзіроўкі ў Добруш. Маўляў, едзьце, пішыце, заказвайце матэрыялы, рыхтуйце тэматычны нумар. Мы і паехалі! Назбіралі, назаказвалі матэрыялаў, як казалі тады, звонкіх і характэрных для той «слаўнай даты».

Мы чакалі ацэнкі, найпеш — галоўнага рэдактара. Ён нібыта быў задаволены. Але ж пазваў нас і шчыра сказаў:

— Добра вы папрацавалі! Вам дзякуй кажу толькі сваё, малайцы! Але лічу, што каб ён быў больш «звонкім», трэба, каб яго «ахрысціў» нехта з вядомых людзей — ураджэнцаў Добрушскага раёна.

Мы задумаліся...

І. П. Сіманоўскі, пэўна, ужо меў прапанову, таму мы скіравалі свае позіркі на яго.

— Вось каб згадзіўся Шамякін! Гэта б прагучала! — пасля паўзы працягнуў наш кіраўнік. Ён дапытліва паглядзеў на мяне; у гэтым поглядзе я заўважыў і просьбу, і параду, і ўпэўненасць...

Назаўтра я наведаў брата Барыса, расказаў пра рэдакцыйную задуму і ўзяў у яго хатні тэлефон Івана Шамякіна. Хоць Барыс папярэдзіў, што Шамякін у Малдавіі, вярнуўся ён ужо ці не — невядома.

Я патэлефанаваў на кватэру Шамякіна, бо сутнасць сваёй просьбы абдумваў шматкроць! На маё шчасце, да тэлефона падышоў сам Іван Пятровіч. Хрыплівым, прастуджаным голасам ён прызнаўся, што ў Малдавіі надта горача, усюды скразнякі, і ён прастыў, а ў цягніку дабавіў. Але ж заўтра на працы ў Саюзе пісьменнікаў абавязкова будзе, бо там шмат спраў. «Прыходзь у Саюз...»

Назаўтра ў прызначаны час я пастукаў у дзверы кабінета Шамякіна. Іван Пятровіч адчыніў дзверы сам і запрасіў прайсці.

— Пасядзі вось тут у крэсле, Алесь, пачакай... Я зараз дапішу!

Ён узяў чарнільную аўтаручку і засяроджана стаў пісаць. Пісаў хутка, размашыста, не звяртаючы на мяне ўвагі.

— Ну вось, Алесь, і напісаў! На, друкуй, ды нумар газеты прынясі, хаця б адзін!

— Іван Пятровіч, дзякуй. Усё зраблю, як вы кажаце, і ганарар таксама прышлем, — запэўніў я.


Баба Вера пячэ ўчынёныя бліны

— І табе дзякуй! І маці, і братам у вёску таксама перадай маю ўдзячнасць за іх гасціннасць і пачастункі...

...З Саюза пісьменнікаў, памятаю, тады я літаральна выбег — радасны, узнёсла-шчаслівы стрымгалоў імчаў на вуліцу Захарава 42, дзе тады знаходзілася рэдакцыя «Настаўніцкай газеты». Калі зайшоў да Сіманоўскага і паказаў прывітанне Івана Шамякіна, ён ажно засвяціўся ад радасці, паціраў свае вялізныя далоні, хадзіў сюды-туды па кабінеце і ўсё паўтараў:

— Вось гэта ўдача! Вось гэта будзе цвік нумара!..

## «Ты, Іван, пішаш праўду!..»

Паездкі на Гомельшчыну і наведванне нашай вёскі (і маці) сталі больш рэдкімі, калі здарылася аварыя на Чарнобыльскай АЭС... І ўсё ж яны былі. Насуперак таму гору і страху...

Аднойчы пісьменніцкі РАФік падкаціў да нашай хаты без папярэджання. Госці з Мінска заехалі ненадоўга — проста пабачыцца. Бабе Веры было пад васемдзесят!


Браты Сачанкі – Іван, Пятро, Барыс, Алесь

У хаце яе не было, хаця і дзверы не на замку. Дзе ж яна магла быць?

Барыс здагадаўся: «Пад дубком!».

Гэты дубок пасадзіў наш бацька на ўзбочыне невялікай пелі, што была на нашых сотках. Пасадзіў як сімвал таго, што ў яго сем сыноў!

Дубок добра прыжыўся, раскашаваў! Пад ім можна было пасядзець, падумаць, паназіраць за ваколіцай. Да дубка вяла добра пратаптаная сцежка. Баба Вера сядзела там і, што самае дзіўнае, — чытала! Чытала кнігу. Ды якую? Свой любімы раман «Глыбокая плынь».

Іван Шамякін не паверыў, папрасіў патрымаць кнігу. Пагартаў зачытаныя старонкі, спытаў:

— Падабаецца?

— Яшчэ як падабаецца!

— А чым падабаецца?

Тут баба Вера задумалася, як больш дакладна адказаць. І нараспеў мовіла:

— Праўдай! Так, праўдай! Вось ты, Іван, пішаш праўду! Пішаш так, як было. А мой Барыс піша-піша праўду, а пасля нешта прыдумае, выдумае!..

Іван Шамякін, пачуўшы такое, заплакаў!..

Ён, пэўна, яшчэ ні разу не чуў такой шчырай ацэнкі сваіх твораў. Падышоў і пацалаваў маю маці ў шчаку.

Пасля ўсе прыселі каля дубка, пагаварылі ды паехалі на Мінск, бо вадзіцель Пеця ўжо нярвова паглядваў на гадзіннік...

Той згаданы дубок, ці ўжо добрае, разлапістае дрэва, — глыбока сімвалічнае, памятнае дрэва. Каля яго былі Іван Мележ, Рыгор Барадулін, Янка Сіпакоў, Мікола Мятліцкі, іншыя пісьменнікі. Але дуба таго ўжо, на жаль, няма!.. У Год навядзення парадку на зямлі старшыня выканкама Велікаборскага сельсавета загадаў наш дубок спілаваць. Дубок павалілі, разрэзалі на качачкі і прыбралі, кажуць, у двор таго старшыні...

Вось толькі ці стала ў Вялікім Боры больш парадку? Тут я мушу паставіць тлусты пытальнік...

## Бліны бабы Веры

Такія бліны ўмела рабіць толькі мая маці! Учынёныя з рошчыны ў дзяжы, дзе замешвалі і хлеб, яны былі дужа пышныя і смачныя! Да іх падаваліся смятана і цэлая патэльня скварак з яечняй. І ўсё гэта — на сняданак!

...У той дзень Іван Шамякін, Барыс Сачанка і Мікола Мятліцкі заехалі да бабы Веры па дарозе на Мінск. Заехалі раніцай пабачыцца, праведаць. Але ж у нашай вёсцы без пачастунку гасцей не адпускаюць! Але чым частаваць «хлопцаў»? Яны прапанавалі самі: «Блінамі!».

Маці пачала замешваць бліны ў дзяжы вялікай драўлянай лыжкай. Пакуль гаварылі-гаманілі, і бліны паспелі, і ў печы нагарэла вуголля, і на стол знайшлося, што паставіць.

Селі, пасядзелі. Ды ехаць трэба ж! А бліноў тых, пахкіх і дужа смачных, цэлая горка! Як быць?

Выйсце прапанаваў Мікола Мятліцкі. (Тут я мушу ўдакладніць: Мікола пачаў працаваць у часопісе «Полымя». Ён таксама родам з Хойніцкага раёна, з вёскі Бабчын — з той вёскі, што і мая маці. Мікола — мой траюрадны брат.)

Выйсце было прапанавана дзіўнае, але выключна здагадлівае! Горку гарачых бліноў Мікола шматкроць загарнуў у бабін саматканы ільняны ручнік і схаваў пад свой швэдар. На жываце ў яго бліны і паехалі.

Ці далёка? Я пасля запытаўся ў Міколы пра тое падарожжа з блінамі на пузе... Мікола адказаў з уласцівым яму гумарам:

— Да Светлагорска хапіла!

Аказваецца, бліны бабы Веры елі ўсе па дарозе. Яны так смачна пахлі, што адкладваць на пасля не сталі, а елі на хаду, як тую піцу! Елі і ўспаміналі бабу Веру, жадалі ёй здароўя і доўгага жыцця!

На жаль, мая маці (баба Вера) пайшла з жыцця не з-за сваіх пражытых гадоў. Яе сканала радыяцыя...

***Вось такія згадкі-ўспаміны ў мяне пра Івана Пятровіча Шамякіна. За пройдзеным, за мінулым часам ён бачыцца мне перш за ўсё простым і шчырым чалавекам. І ў гэтым, мне здаецца, яго вечнасць...***

*Верасень 2022 г.*

# Сімянон, Мегрэ і маленькі чалавек

Арсень ЗАМАСЦЬЯНАЎ

120 гадоў таму ў бельгійскім Льежы нарадзіўся адзін з чэмпіёнаў сусветнага пісьменства, які сціпла называў свае раманы «напаўлітаратурай».

Жорж Сімянон — а гэта быў ён — легендарнае імя ў гісторыі папулярнай літаратуры і проста адзін з самых цікавых людзей XX стагоддзя. Сапраўдны феномен. Яго імя стала намінальным, як і імя яго самага папулярнага героя — камісара Жуля Мегрэ, які працаваў у знакамітым доме на парыжскай набярэжнай Арфеўр, 36.

Ён нарадзіўся ў Бельгіі, у Льежы, у небагатай сям'і. Многае пабачыў, працуючы журналістам, робячы кар'еру ў Парыжы. Пісаў бульварныя раманы сотнямі — пад рознымі псеўданімамі. Марачы «прабіцца», падладжваўся пад кан'юнктуру. У канцы 1929-га, у 26 гадоў, знайшоў «залатую жылу» і адкрыў новую эпоху ў гісторыі дэтэктыўнага рамана.

Сімянон упершыню прыдумаў камісара Мегрэ. У рамане «Петэрс Латыш»... Пісьменнік успамінаў, што гэты вобраз прыйшоў да яго ў галаву падчас падарожжа — у галандскім мястэчку Дэлфзейле. Праз некалькі дзесяцігоддзяў, яшчэ пры жыцці Сімянона, там усталююць помнік любімаму літаратурнаму герою мільёнаў.

У гэтым рамане пісьменнік яшчэ «не знайшоў» ні свайго Мегрэ, ні ўласнага («выціснутага, як лімон») стылю. Сюжэт змрачнаваты і цяжкаваты. Цікава, што ён звязаны з Расіяй: і забойца, і ахвяра нарадзіліся ў Пскове. Таму ў СССР кнігу выдавалі і згадвалі не надта ахвотна. Тым не менш, раман, які выходзіў у 1930 годзе ў штотыднёвіку выдавецтва «Фаяр», прынёс аўтару поспех і да гэтага часу застаецца культавым у Францыі.

З таго часу Сімянону больш не трэба было займацца журналісцкай і літаратурнай падзёншчынай, пісаць прахадныя заказныя кнігі і турбавацца аб фінансавай будучыні. Мегрэ (які праз некалькі гадоў набудзе свае класічныя рысы) прынёс славу і дабрабыт, да якіх пісьменнік ніколі не ставіўся звысоку.

Па тыражах, па ўменні хутка складаць паліцэйскія раманы ён не ведаў роўных. «Я пішу хутка, таму што ў мяне не хапае мазгоў, каб пісаць павольна».

Аднойчы ён напісаў раман за 6 дзён. Часта адводзіў на асноўную працу 7 дзён, на выпраўленні — яшчэ 4. Не любіў працаваць над раманам даўжэй месяца. І лічыў, што прачытаць кожную ягоную кнігу можна за адну ноч. Ён кожны дзень стукаў па клавішах пішмашынкі, рэдка загадзя прадумваў сюжэты — і дамагаўся лёгкасці, дакладнасці.

У некаторых яго кнігах пра Мегрэ, здавалася б, няма нічога асаблівага. Будзённае жыццё паліцэйскага камісара. Важная нават не дэтэктыўная загадка, не сакрэт злачынства, а тое, што камісару некамфортна ў новым паліто. Тое, што ён перад сном вып'е вінца і засмяецца, успамінаючы смешнае слоўца аднаго з падазраваных.

Цяжка не палюбіць і сімянонаўскі Парыж, пра які ў яго раманах расказана скупа, але важка.

Ён не паспяваў шмат чытаць. Але ў дзяцінстве ўвабраў усё, што неабходна з літаратурнай класікі.

Ён ведаў, чаму чалавек ідзе на нізасць, на злачынства. Сімянона і самога часта параўноўвалі з Мегрэ. Ён адмахваўся ад такіх параўнанняў. Мегрэ — кансерватар, перакананы сем'янін, хоць і бяздзетны. Сімянон — перакананы лавелас, шмат ахвяр у жыцці прынёс богу Амуру. На заходзе дня пісьменнік прызнаваўся, што ў яго было 10 тысяч жанчын. Магчыма, перабольшваў ці іранізаваў, але высокая доля праўды ў гэтым прызнанні ёсць.

У савецкай краіне яго — праўда, не адразу — прынялі як свайго. І нездарма.



Жорж Сімянон і яго калекцыя люлек

Сімянон выдатна ведаў людзей, бачыў іх сацыяльную сутнасць — як самы скурпулёзны і праніклівы марксіст. У краіне сацыялізму гэта ацанілі высока. Дастаткова пералічыць некаторыя загалоўкі некаторых тагачасных газетных матэрыялаў, прысвечаных Сімянону: «Любімы пісьменнік механіка Арлова», «Адвакат чалавека», «Пішу аб неабароненым у нашым грамадстве маленькім чалавеку». Хаця... Вядома, жыццё не прамалінейнае, а дыялектычнае. Сімянон атрымаў выхаванне ў сям'і, якая мела «правыя» перакананні. Яго малодшы брат Крысціян стаў нацыстам — і маці да канца жыцця любіла яго больш, чым знакамітага пісьменніка. А сам Жорж, будучы маладым кан'юнктурным журналістам, пісаў пра «яўрэйскае ярмо», якое вядзе да страшнай «улады бальшавікоў». І Савецкі Саюз у маладосці ўяўляўся яму краінай таталітарнай. Потым ён ад гэтых уяўленняў адмовіўся. Але калі Францыю акупавалі немцы — ён выявіў сябе канфармістам. Публікаваўся, даваў інтэрв'ю — праўда, палітычных пытанняў пазбягаў і нацысцкія ідэі не прапагандаваў. У любым выпадку, пасля 1945 года яму давялося апраўдвацца. 19 ліпеня 1949 года Камісія па чыстцы літаратуры ўсё ж прызнала Сімянона вінаватым і наклала двухгадовую забарону на публікацыю яго твораў і распаўсюджванне ўжо апублікаваных. Праўда, адвакат пісьменніка дапамог змякчыць гэты прысуд.

Пасля вайны ён шчыра «палявеў», як і ўся Францыя. Сімянону давялося нават падкупляць ілжэсведкаў, якія распавядалі аб яго падпольнай антыфашысцкай дзейнасці. Так, ён быў, акрамя іншага, першакласным авантурыстам.

XX стагоддзе стала росквітам дэтэктыўнага жанру. Што вылучае Сімянона з агульнага шэрагу сотняў калег? Ён — як і яго герой камісар Мегрэ — быў знаўцам чалавечай псіхалогіі. І амаль не зрываўся ў сацыяльны фальш. Нярэдка яго кнігі называюць «паліцэйскім вытворчым раманам». У гэтым ёсць зерне ісціны. Ён добра ведаў, што такое крывадушнасць багатых. Для Конан Дойля ці Агаты Крысці гэтай рэальнасці, гэтай праблематыкі проста не існавала. Іх героі валодаюць звышчалавечымі здольнасцямі. А Мегрэ — не геній, не супермэн. Яго сіла ў народным разумным сэнсе і вопыце. Ён разумеў, як злачынства выспявае ў сямейных сварках, на глебе амбіцый, помсты, зайздрасці, цемрашальства і маральнай пустэчы, на сэксуальных дражджах.

Сімянон вельмі сур'ёзна ставіўся да сваёй прафесіі. Нязменна прытрымліваўся правіла выкідваць значную частку напісанага з чарнавікоў. Пасля «Латыша» ён напісаў каля 220 паўнавартасных раманаў і аповесцяў, сярод якіх мала няўдач, і амаль 10 тамоў разважанняў і інтэрв'ю. Адна з яго былых жонак не без помслівасці тлумачыла фантастычную працаздольнасць Сімянона: «Ён гадзінамі сядзеў за машынкай, нібы робат, перарываючыся толькі для таго, каб заправіцца віскі, без якога ён ніколі не мог працаваць. Потым надыходзіла чарга "сэксуальнай разрадкі" — гэтаму чалавеку, каб працаваць, было неабходна мець у дзень 4—5 розных жанчын».

У нас прынята паблажліва ставіцца да масавага кніжнага жанру. У адным з літаратуразнаўчых падручнікаў 60 гадоў таму можна было прачытаць: «Ж. Сімянон — аўтар некалькіх добрых твораў <...>. Дзякуючы энергічным дзеянням выдаўцоў, перакладчыкаў і каментатараў, ён заняў незаслужана высокае месца ў нашых чытацкіх інтарэсах. І практыка гэтая зусім не нявінная: тым самым чытацкая ўвага арыентуецца на «масавую культуру», адцягваецца ад сапраўднага мастацтва, веданне і разуменне якога так неабходна для ўсталявання духоўных кантактаў...».

Але вельмі хутка ўсё змянілася, з 1960-х ён стаў любімым пісьменнікам СССР. І ў падручніках па замежнай літаратуры яму ў стрыманых танах аддавалі належнае. А да 1980-х кнігі Сімянона выходзілі ва ўсіх рэспубліках СССР. Яго кніг не хапала, яны высока каціраваліся ў букіністаў і спекулянтаў. А яшчэ — на тэлебачанні ішлі экранізацыі раманаў, выходзілі і радыёпастаноўкі паводле Сімянона, і тэатральныя спектаклі. Як, зрэшты, і ў наш час...

Мегрэ — незвычайны сваёй звычайнасцю на фоне іншых літаратурных вялікіх шпікоў. Ён не граў на скрыпцы, не захапляўся экзатычнымі кветкамі. І не валодаў ніякімі магічнымі здольнасцямі. Але цвяроза глядзеў на свет, добра разумеў людзей і адчуваў сябе як рыба ў вадзе ў парыжскай паліцыі, хоць і бурчаў на тамтэйшых бюракратаў...




Зачытаная «Першая справа Мегрэ» (1982 г.) у перакладзе Ніны Мацяш

Затым Сімянон шмат гадоў не пісаў раманаў. Апошнюю кнігу аб вялікім камісары, «Мегрэ і спадар Шарль», крытыка аблаяла. А ён, яшчэ не стаўшы старым, перастаў пісаць свае вельмі камерцыйна перспектыўныя раманы — нягледзячы на пратэсты выдаўцоў...

У канцы жыцця Сімянону Мегрэ толькі сніўся: «Ён быў вышэйшы, шырэйшы ў плячах і масіўнейшы, чым я, і, хоць я бачыў яго са спіны, у ім адчувалася супакаенне, і я пазайздросціў яму... Спатрэбіўся некаторы час, каб я ў паўсне зразумеў, што гэта зусім не рэальна існуючы чалавек, а персанаж, народжаны маім уяўленнем... Ён не сумуе. У любы час дня ў яго ёсць занятак, а бывае, яны з жонкай, узяўшыся пад руку, здзяйсняюць доўгія прагулкі пешшу. Карціны гэтыя захаваліся ў мяне ў мозгу, і гэта стала для мяне як бы канчатковай адстаўкай Мегрэ».

Сімянон, хоць і стаў заможным буржуа, па перакананні застаўся сацыялістам. Ён сябраваў з савецкімі пісьменнікамі Іллём Эрэнбургам, Юльянам Сямёнавым... У сваіх выказваннях і ўспамінах зноў і зноў вяртаўся да сваіх падарожжаў па Савецкім Саюзе. Пасля вайны ён пахваляў СССР нават там і тады, дзе і калі гэта было нявыгадна.

Калі мы бярэм у рукі кнігу Жоржа Сімянона — нас ахоплівае прадчуванне глыбокага пранікнення ў свет чарговага рамана, адарвацца ад якога немагчыма. Гэта датычыцца і яго апошніх кніг, у якіх пісьменнік гаворыць ад першай асобы. Гэта — інтэрв'ю, мемуары і разважанні, напісаныя на схіле гадоў. Ён падводзіў вынікі жыцця, дзяліўся сакрэтамі пісьменніцкага майстэрства, шмат разважаў аб палітыцы, баючыся, што свет зноў могуць ахапіць войны.

Сімянон у апошнія дзесяцігоддзі жыцця быў сапраўдным гуманістам. І думаць ён умеў афарыстычна, мудра і разам з тым прастадушна. І хоць вялікага шпіка ўласнага вырабу пісьменнік недаацэньваў, лічыў свае «цяжкія раманы» чымсьці важнейшым, але вобраз Мегрэ стаў найбольш запамінальным. Просты вобраз грузнага, прастадушнага і ў той жа час хітрага чалавека з люлькай.

Многія тэксты Сімянона, як адзначаюць літаратуразнаўцы, у перакладах на іншыя мовы выглядаюць далёка не горш, чым арыгіналы. (На беларускую мову яго кнігі перастваралі Ніна Мацяш і Алесь Асташонак.)

Ці вартыя мы Сімянона сёння — як караля масавага чытва? Мабыць, мы сфланавалі кудысьці назад ці ў бок — і дарма. Але мы ў той свет, паблажлівы да маленькіх людзей і іх грашкоў, яшчэ вернемся.



Лаўка і скульптура, прысвечаная Ж. Сімянону, у яго родным горадзе Льеж

## Міжнародная прэмія імя Алеся Ганчара

У Нацыянальным літаратурным музеі Украіны да 105-годдзя з дня нараджэння ўкраінскага пісьменніка Алеся Ганчара ўзнагародзілі пяць лаўрэатаў Міжнароднай нямецка-ўкраінскай прэміі маладых пісьменнікаў.




«Гэта не проста ўзнагарода за творчасць асобных маладых аўтараў: сёння, калі краіна змагаецца на фронце, мы разглядаем гэта як сімвал падтрымкі ўсёй украінскай культуры, якая таксама ўдзельнічае ў гэтай барацьбе… Творчасць заўсёды несла ідэі святла і любові, а героі Ганчара ў змаганні за ўласны лёс заўсёды рабілі гэта, зыходзячы з высокіх цнотаў хрысціянскай маралі», — адзначыла генеральны дырэктар НЛМУ Галіна Сарока.

У намінацыі «Вялікая проза» перамогу атрымаў зборнік апавяданняў «У люстэрку спавядальні» Тараса Голата, які вядомы і сваёй паэзіяй. Сярод твораў «малой прозы» журы аднагалосна адзначыла зборнік апавяданняў «Пакуль сонца ўзыходзіць» Багдана Гасюка. Пісьменнік, член журы конкурсу Аляксандр Балабко падкрэсліў, што яго ўразілі апавяданні аўтара, стылістычна блізкія да твораў Васіля Стэфаніка. «Якая духмяная гэтая мова, быццам сабрана з горных схілаў Карпат», — падкрэсліў ён.

У намінацыі «Паэзія» ўзнагароду атрымаў Станіслаў Навіцкі за зборнік вершаў «Перадмаўчанне». «Паэтычная творчасць Станіслава, якая выйшла ў вядомай серыі «Паэты трэцяга тысячагоддзя», сведчыць пра тое, што ён хоць і малады, але ўжо сфармаваны паэт. Калі казаць пра яго творчасць, то адзначу, што яго стыль пазнавальны — гэта афарыстычнасць, лаканічная лірыка, якая пераходзіць у трансцэндэнталізм», — адзначыў Чысцяк.

У намінацыі «Публіцыстыка» прэмію прысудзілі студэнту Львоўскага ўніверсітэта імя Івана Франка Любаміру Лясоніну за зборнік эсэ «Альбом, у якім — ты».

Самым маладым пераможцам стаў 16-гадовы Захар Зіненка — у намінацыі «Літаратурны твор, прысвечаны творчасці Алеся Ганчара».

Падчас сустрэчы былі ўручаны дыпломы лаўрэатаў прэміі 2022 года Мікіту Грыгораву і Ігару Дарашэнку, якія знаходзяцца за мяжой.

Міжнародная нямецка-ўкраінская прэмія імя Алеся Ганчара была заснавана ў 1996 годзе нямецкімі мецэнатамі і Нацыянальным саюзам пісьменнікаў Украіны.

## Міжнародны фестываль «Па слядах Айтматава»

У сталіцы Кіргізіі Бішкеку адбыўся Міжнародны кніжны фестываль, прымеркаваны да 95-годдзя з дня нараджэння Чынгіза Айтматава (1928 – 2008).

У цырымоніі адкрыцця фестывалю прынялі ўдзел міністр культуры Кыргызскай Рэспублікі Алтынбек Максутаў, дзяржсакратар Кыргызскай Рэспублікі Суйунбек Касмамбетаў і іншыя афіцыйныя асобы, у тым ліку пісьменнікі, паэты і перакладчыкі.

Ганаровым госцем фестывалю стала Расія. На фестывалі прэзентавалі тры тамы анталогіі «Сучасная літаратура краін СНД» на рускай і кіргізскай мовах.

Народны пісьменнік Кіргізіі Чынгіз Тарэкулавіч Айтматаў — аўтар аповесцяў і раманаў «Твар у твар» (1957), «Джаміля» (1958), «Таполька мая ў чырвонай касынцы», «Вярблюджае вока», «Першы настаўнік» (усе 1961), «Матчына поле» (1963), «Бывай, Гюльсары» (1966), «Белы параход» (1970), «Рабы сабака, які бяжыць уздоўж мора» (1977), «Плаха» (1986), «Божая маці ў снягах» (1988), у якіх спалучаны псіхалагічны аналіз з традыцыямі фальклору, міфалогіі, прытчы.

Асобнае — сімвалічнае — значэнне для постсавецкіх краін мае яго «Буранны паўстанак» (1980) — легенда аб манкурце, які не ведаў, хто ён, адкуль родам-племенем, не ведаў свайго імя, не памятаў бацькі і маці. Пазбаўлены разумення ўласнага «я», ён быў бязмоўным стварэннем, абсалютна пакорным і бязвольным. Манкурт, як сабака, прызнаваў толькі сваіх гаспадароў. Усе яго намеры зводзіліся да здаволення чэрава…

Амаль усе творы Чынгіза Айтматава экранізаваныя. На беларускую мову яго кнігі перакладалі І. Сакалоўскі, С. Міхальчук, М. Стральцоў.

## Першае выданне п'ес Шэкспіра

У Лонданскай бібліятэцы прэзентавалі першае выданне п'ес сусветна вядомага драматурга Уільяма Шэкспіра. Кніга з'яўляецца адным з асобнікаў «Першага фоліа» (First Folio), выдадзенага ў 1623 годзе.

Бібліятэка Guildhall прадставіла рэдкую калекцыю твораў Шэкспіра з нагоды святкавання 400-годдзя з дня нараджэння драматурга. Кніга, выдадзеная праз сем гадоў пасля смерці Вялікага Барда, змяшчае ўсе яго п'есы. Калекцыя была складзена акцёрамі Джонам Хэмінгсам і Генры Кондэлам, якія былі ў трупе, што ставіла п'есы Шэкспіра, — у знак павагі і памяці аўтара.

Усяго было надрукавана каля 750 асобнікаў першага выдання, але да нашых дзён дайшло толькі каля 235.

У 1913 годзе кніга была перададзена ў лонданскую бібліятэку Guildhall. Яе рэдка паказваюць. У дадатак да калекцыі 1623 года на выставе таксама прадстаўлены яшчэ адзін фаліянт і два меншыя арыгінальныя экзэмпляры п'ес «Генрых IV, частка першая» і «Атэла».

Кнігі былі выстаўлены ў бібліятэцы на пяць гадзін.




## Мумі-тролі і Расія

Фінская кампанія Moomin Characters, якая належыць спадчыннікам пісьменніцы Тувэ Янсан (1913—2001), перастала выдаваць і падаўжаць дзеючыя ў Расіі ліцэнзіі на выкарыстанне вобразаў казачных герояў Тувэ Янсан. Уладальнікі аўтарскага права літаратаркі прынялі такое рашэнне з-за санкцый, уведзеных у дачыненні да Расіі, а таксама на падставе сваёй уласнай пазіцыі.

Супрацоўнік агенцтва Brand4rent, які прадстаўляў інтарэсы кампаніі ў Расіі, пацвердзіў, што афармленне новых ліцэнзій прыпынена «ў сувязі з тым, што адбываецца ў свеце».

Дарэчы, у ГЦ «Афимолл» планавалі правесці «Вясновы фестываль мумі-троляў». У кошт білета ўваходзіла наведванне выставы з поўным зборам коміксаў Тувэ Янсан, «майстэрні мумі-троляў», прагляд спектакля «Мумі-троль і чароўны капялюш», а таксама кніжны кірмаш. З-за ўведзенай забароны фестываль давялося адмяніць.

## Цэнзура твораў Агаты Крысці

Працягваюць змяняць тэксты вядомых сусветных пісьменнікаў. Так, раманы Агаты Крысці пра Эркюля Пуаро і міс Марпл падвергліся рэдагаванню — з іх будуць выдаленыя «патэнцыйна абразлівыя выразы», паведаміла The Guardian. Новыя выданні твораў Агаты Крысці павінны выходзіць або ўжо выйшлі ў выдавецтве HarperCollins, якое карыстаецца паслугамі «адчувальных чытачоў». Лічбавыя версіі новых выданняў утрымліваюць дзясяткі змяненняў у тэкстах, напісаных у перыяд з 1920 па 1976 год. Былі выдаленыя ўрыўкі, якія змяшчаюць апісанні, выявы або спасылкі на этнічную прыналежнасць, асабліва для персанажаў, з якімі героі А. Крысці сутыкаюцца за межамі Вялікабрытаніі.

З раманаў А. Крысці прыбіраюць «абразлівую лексіку». Напрыклад, рэдактары выдалілі спасылкі на этнічную прыналежнасць, апісанне персанажа як чорнага, габрэя або цыгана, ці апісанне жаночага цела як «зробленага з чорнага мармуру», «індзейскі характар» суддзі, а таксама выдалілі такія тэрміны, як «усходні». Слова «тузэмцы» таксама замянілі на слова «тутэйшыя».

У якасці прыклада можна прывесці раман пра Эркюля Пуаро «Смерць на Ніле» 1937 года, у якім гераіня місіс Алертан скардзіцца, што група дзяцей даймае яе, кажучы, што «яны паварочваюцца, глядзяць і глядзяць, і вочы ў іх проста агідныя, і насы, і я не веру, што сапраўды люблю дзяцей». У новай рэдакцыі гэтыя словы цяпер гучаць так: «Яны круцяцца і глядзяць, і глядзяць. І я не веру, што я вельмі люблю дзяцей».



Ва ўсіх кнігах расавыя апісанні былі зменены або выдалены, асабліва ў «Карыбскай таямніцы».

Гэта не першы раз, калі тэксты А. Крысці былі зменены.

Агата Крысці — англійская пісьменніца, адна з самых вядомых прадстаўніц дэтэктыўнага жанру ў свеце, аўтар класічных персанажаў дэтэктыўнай літаратуры — Эркюля Пуаро і міс Марпл. У 2012 годзе кнігі Агаты Крысці занялі трэцяе месца ў гісторыі пасля Бібліі і твораў Уільяма Шэкспіра па колькасці перакладаў (больш за 100 моў) і агульным тыражы друкаваных выданняў (больш за 2 мільярды асобнікаў).

Лепшым сваім творам Агата Крысці лічыла раман «Дзесяць негрыцят». Чытачы таксама ацанілі кнігу — у яе самыя высокія продажы ў крамах, але дзеля паліткарэктнасці цяпер яна прадаецца пад назвай «І нікога не засталося».

Раней падобныя змены закранулі кнігі Роальда Дала. Крытыкі заявілі, што ў раманах «Чарлі і шакаладная фабрыка», «Ведзьмы» і «Мацільда» выдаленыя «непрыстойныя фармулёўкі» пра вагу, пол, рáсу і псіхічнае здароўе герояў.

Тэксты кніг Яна Флемінга пра Джэймса Бонда таксама могуць быць зменены. Выдавец дадасць да раманаў паведамленне накшталт: «Гэтая кніга была напісана ў той час, калі паняцці і погляды, якія сучасны чытач можа палічыць абразлівымі, былі звычайнай з'явай. У гэтым выданні зроблены шэраг змяненняў, максімальна набліжаных да арыгінальнага тэксту і перыяду, пра які ідзе гаворка».

У той жа час крытыкі адзначаюць, што адаптаваныя да патрабаванняў XXI стагоддзя рэдакцыі тэкстаў «рызыкуюць падарваць геній вялікіх мастакоў» і не дазваляюць чытачам «сутыкнуцца са светам такім, які ён быў».

## Літаратура павышае… якасць жыцця

Брытанскае выданне «MailOnline» апублікавала артыкул, у якім паведамляецца, што адмова ад кніг жанру nonfiction на карысць чытання больш складаных твораў мастацкай літаратуры можа дапамагчы павысіць разумовую працаздольнасць мозгу і якасць жыцця.

Выданне спасылаецца на новыя даследаванні прафесара Філіпа Дэвіса з Універсітэта Ліверпуля, які настойліва рэкамендуе людзям, што пакутуюць на дэпрэсію, хранічныя захворванні і нават дэменцыю, чытаць, напрыклад, раманы Чарльза Дзікенса або Джэйн Осцін. Вучоны адзначыў, што чытанне класічнай літаратуры «вызваляе эмоцыі і ўяўленне» і дазваляе чытачам адчуць сябе «больш жывымі», тым самым пазбаўляючы ад сімптомаў хваробы.

А вось так званыя матывацыйныя кнігі ці літаратура self-help (кнігі па самадапамозе) падобнай карысці не прыносяць, бо працэс іх чытання занадта просты, каб узбудзіць актыўнасць чалавечага мозгу.

Прафесар Ф. Дэвіс сцвярджае, што ў часе чытання «Навальнічнага перавалу» Эміліі Брантэ або «Вайны і міру» Льва Талстога чытач адчувае эмпатыю, суперажываючы персанажам твораў, што дазваляе ягонаму мозгу працаваць больш эфектыўна. Павелічэнне эмоцый прымушае свядомасць чытача прапрацоўваць больш складаную і глыбокую працу, таму ён і адчувае сябе «больш жывым». А гэта, адзначыў вучоны, можа палягчаць сімптомы клінічнай дэпрэсіі, хранічных захворванняў і нават змагацца з дэменцыяй.

Прафесара Філіпа Дэвіса працытавала і выданне «Sunday Times»: «Калі вы проста сканууе інфармацыю, вы чытаеце хутка, гэта вельмі проста і адбываецца аўтаматычна. А калі літаратура прымушае рабіць нешта больш складанае, мозг пачынае працаваць больш актыўна. Чытанне хвалюе, і мозг становіцца эмацыйным».

Уласная кніга Філіпа Дэвіса «Чытанне для жыцця» заснаваная на працах Ліверпульскага цэнтра даследаванняў у галіне чытання, літаратуры і грамадства, які вывучае «ролю літаратуры ў мадэляванні творчага мыслення аб чалавечым існаванні». Папярэднія даследаванні Цэнтра паказалі, што чытанне можа дапамагчы захаваць памяць у старасці.